PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 46 (1905) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 15 ЛІСТАПАДА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ПУШЧАНСКІЯ ГМІНЫ ЯДНАЮЦЦА

Белавежская, Гайнаўская, Нараўчанская і Дубіцкая гміны пастанавілі стварыць Саюз гмін Белавежскай пушчы. Адпаведныя рашэнні прынялі ўжо ўсе чатыры гмінныя рады. Цяпер ідзе працэдура рэгістрацыі.

Мэта Саюза — давесці да гарманічнага развіцця тэрыторыі чатырох гмін і гэтым самым паправіць умовы жыцця мясцоваму насельніцтву.

Саюз будзе весці супольную палітыку экалагічна-комплекснага развіцця на сваім абшары. Займецца і грамадска-гаспадарчай дзейнасцю, з асаблівай увагай для аховы натуральнага асяроддзя. Намерваецца таксама наладзіць супрацоўніцтва з рознымі арганізацыямі і саюзамі як у краіне, так і за мяжой. Урэшце будзе актывізаваць мясцовае грамадства дзеля прадпрымальнасці і аховы прыроды.

А вось найважнейшыя заданні Саюза: выпрацаваць канцэпцыю комплекснага развіцця свайго раёна, весці супольныя інвестыцыі і іншыя арганізацыйныя справы, таксама гаспадарчую дзейнасць на ўласны рахунак і ў форме ўдзелу з іншымі гаспадарчымі адзінкамі, і ўрэшце садзейнічаць актуалізацыі плану прасторавага добраўпарадкавання гмінаў-удзельніц.

Паасобныя гміны-заснавальнікі згадзіліся стаць членамі Саюза з узносамі па 20 мільёнаў злотых. Апрача ўзносаў маёмасцю Саюза будуць розныя набыткі, прыдбаныя ў час яго існавання. Даход мае ствараецца з членскіх павіннасцей, маёмасных прыбыткаў Саюза, з гаспадарчай дзейнасці, паступленняў з пазык, складчын, запісаў і дараванняў, а таксама з іншых крыніц.

Кіруючым органам з'яўляецца Сход, а выканаўчым — Праўленне Саюза, выбранае Сходам у тайным галасаванні. У склад Сходу ўваходзяць войт і два прадстаўнікі кожнай гміны.

Сядзібай Саюза выбрана Белавежа.

ТЭКСТ І ФОТА ПЯТРА БАЙКО



*Сядзіба Саюза — Белавежа.*

## ТРАГЕДЫЯ

Чарнобыльская трагедыя, страшэнная, неўявімая для нас дагэтуль, ускалыхнула светам. І людзі свету адгукнуліся сэрцам на яе. Паплылі з усіх бакоў лякарствы, медыцынская апаратура, іншыя дары для пакрыўджаных лёсам людзей. Дзяцей з чарнобыльскай зоны пачалі запрашаць за граніцу на адпачынак, каб хоць накрыху змянілі сваё асяроддзе, паелі чыстых фруктаў і гароднінЫ.

Дык я якраз наконт чарнобыльскіх дзетак, якіх нямала прыязджае на адпачынак і ў Польшчу. Бо так папраўдзе, кажуць людзі ў Менску, а нават і дзе-інш, не ўсе яны такія ўжо і „чарнобыльскія". Ну, ясная справа: усім дзеткам прыдаўся б такі адпачынак, і менскім таксама, хаця былі яны і далей ад трагічнай катастрофы. Але не тады, калі чакаюць сапраўды хворыя ці нараджаныя на пэўную хваробу дзеці.

Кажуць, што найважнейшае, каб паехаць, — гэта мець знаёмую выхавацельніцу (вядома, яшчэ лепш быць яе дзіцём ці сваяком). Тады ўсё пойдзе гладка. І можна ехаць. У Польшчу, Італію, Фінляндыю, Англію...

І для выхавацельніц якое ж гэта прэстыжнае месца! Там, на месцы, гаспадары запіхаюць ім усе сумкі ношанай вопраткай, але зусім добрай яшчэ. Часта даюць і новае. Калі ты з дзіцём — будзе ўдвая. Пасля можна што-нешта і прадаць. Хопіць да новай паездкі.

Людзей, якія адкрылі сваю душу на чарнобыльскую трагедыю, пачынаюць, аднак, пэўныя рэчы ірытаваць. Прыкра нам, калі ў польскай прэсе паяўляюцца крытычныя артыкулы пра гэтых дзетак, якіх бацькі няраз высылаюць на звычайны гандаль, але фактычна ім мусяць займацца гаспадары, прыняўшыя дзіця, ды ўсе іхнія суседзі. Бяднейшым гаспадарам бывае прыкра, што не споўнілі спадзяванняў госця, якому здавалася, што дастаткова выехаць заграніцу і будзе ўжо так званая „Амерыка". Скромна жывучыя людзі тaксама хацелі б унесці сваю лепту ў гэту дапамогу. А здараецца і так, што людзі, якія так сардэчна бралі дзяцей да сябе, праводзячы, здаюць іх і не чакаюць нават, пакуль ад'едзе аўтобус. Калісь у прэсе было, што ля аўтобуса да канца чакаў адзін-адзіны чалавек.

Аказваецца, і ў іншых краінах адбываецца рознае. Вядомы англійскі беларусавед Джым Дынглі з Лондана, якога я сустрэла ў канцы жніўня ў хаце прафесара Адама Мальдзіса, расказваў, што англічанам не надта падабаецца, калі бачаць, напрыклад, як дзіця выхавацельніцы курыць папяросы па 2 фунты за пачку. Той, хто даў грошы на прыезд гэтага дзіцяці ў Англію, не заўсёды можа сабе дазволіць на гэткія папяросы. Тым больш, што англічанін зрабіў складчыну на хворых дзяцей.

Здаецца мне, што крыецца тут наступная трагедыя беларусаў. Ці ўжо ўсе яны сталі абыякавыя на тое, што думаюць пра іх у свеце? Калісьці гэта быў светлы вобраз.

АДА ЧАЧУГА

## ПЕРАД З'ЕЗДАМ ТАВАРЫСТВА

*У выніку інтрыг якія праводзіла Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Міністэрства культуры пазбавіла нас "Нівы", якая была на працягу трыццаці пяці гадоў нашым органам. Беларускае таварыства зрабіла з "Нівы" тыднёвік даступны для ўсіх беларускіх арыянтацыяў і не гледзячы на гэта Міністэрства зрабіла неразважны крок які можа давесці да поўнага ўпадку гэтай газеты. /з "Асноў справаздачна-выбарчай кампаніі Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы"/*

25 кастрычніка на Варшаўскай 11 у Беластоку прайшоў Пленум Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Бляску пленуму прыдаў удзел у ім запрошаных гасцей: прэзідэнта Беластока Леха Руткоўскага, дырэктара Аддзела па грамадскіх пытаннях Ваяводскай управы Эўгеніюша Біля-Ярузельскага, бургамістра Гайнаўкі Мечыслава Гмітэра і дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры Казімежа Дэркоўскага.

Пленум прайшоў паводле наступнага парадку: інфармацыя аб дзейнасці БГКТ у мінулым культурна-асветным годзе, планы і намеры на 1992/93 год, сітуацыя беларускай грамадскасці ў Польшчы, справаздачна-выбарная кампанія ў БГКТ, месца і роля самаўрадавых арганізацый у развіцці культурна-асветнай дзейнасці ў беларускіх асяроддзях у Польшчы. Закончыў усю імпрэзу канцэрт калектыву з Беларусі.

Адкрыў пленум старшыня БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, які сказаў, што засядаць даводзіцца ў складанай сітуацыі. Кандыцыя Беларускага Таварыства не палепшылася, а наадварот - пагоршылася.

Першыя два пункты парадку пленума былі спалучаны ў адзін. З інфармацыяй выступіў намеснік старшыні ГП БГКТ Ян Сычэўскі. У цэнтры ўвагі Таварыства, гаварыў ён, заўсёды знаходзілася пабудова Беларускага музея ў Гайнаўцы. Таварыства рабіла захады, каб вярнуць у гайнаўскі музей экспанаты, забраныя ў 70-х гадах дзяржавай, якія цяпер знаходзяцца ў Цеханоўцы і Белавежы. Гаворачы пра культурныя мерапрыемствы Таварыства, Ян Сычэўскі паінфармаваў, што Міністэрства культуры і мастацтва фінансава падтрымлівае ўсяго канкрэтныя імпрэзы, а не штаты і будынкі той ці іншай арганізацыі. Мерапрыемствы, праведзеныя Беларускім таварыствам, сказаў Ян Сычэўскі, служылі інтэграцыі польскага і беларускага насельніцтва ў гмінах. Таварыства вырашыла арганізаваць фэсты, бо дайшло да вываду, што канцэрты паасобных калектываў не надта ўспрымаюцца публікай. Акрамя фэстаў у гмінах Таварыства ў мінулым асветна-культурным годзе арганізавала "Свята беларускай культуры" ў Беластоку, "Купалле" ў Белавежы, конкурс і канцэрты "Беларуская песня", дэкламатарскія конкурсы і конкурсы драматычных гурткоў. Таварыства, гаварыў яшчэ Ян Сычэўскі, удзельнічала ў перамовах Міністэрства культуры і мастацтва з прадстаўнікамі беларускай меншасці пра далейшы лёс гэтай жа грамадскасці. Таварыства ўдзельнічала таксама ў перамовах Міністэрства нацыянальнай адукацыі Польшчы з Міністэрствам народнай асветы Рэспублікі Беларусь. Удзел гэты, паводле Яна Сычэўскага, прычыніўся да станоўчага вырашэння справы пабудовы новага будынка беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Таварыства, сказаў Ян Сычэўскі, удзельнічала ў адборы кандыдатаў /выпускнікоў ліцэяў/ у вучэльні Беларусі. Выдавецкай дзейнасцю, сказаў Ян Сычэўскі, займаецца цяпер "Белавежа", тым не менш Таварыства выдала "Беларускі каляндар", зборнік Віктара Шведа "Вясёлка" і спеўнік З. Фэдэцкага, які ляжыць у "Ніве"* і ніхто ім не цікавіцца.

Закранаючы арганізацыйныя справы, Ян Сычэўскі паведаміў прысутных, што Таварыства з прычыны недахопу сродкаў адмовілася ад сваіх


*Працяг на стар. 3*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*„Były pierwszy sekretarz Litwy będzie więc rządził znowu tym krajem. (...) Była nomenklatura rządzi na Ukrainie i w Białorusi. W Rumunii w niedawnych wyborach zwyciężył były komunista Iliescu. (...) w Bułgarii (...) upadł w środę pierwszy niekomunistyczny gabinet, po niespełna rocznych rządach. (...) Reforma w Rosji jest zagrożona, zwycięstwo konserwatywnych sił bliskie, inflacja rujnuje gospodarkę. (...) Umierający krokodyl komunistyczny macha ogonem bijąc gdzie popadnie. Co gorsze jego stan zdrowia jakby się nieco polepszał."*

*Dariusz Fikus „Minął tydzień"*
*Rzeczpospolita, nr 258*

Ух! І нялёгкі ж быў тыдзень.

* * *

Інакш рэчаіснасць бачыць „Голас Радзімы". У саракавым нумары гэтага тыднёвіка можам прачытаць, што ***„да сваіх каранёў вяртаецца арыстакратыя"***.

Ці разам з гэтым чакаць трэба вяртання прыгону?

* * *

*„... istnieją obszary Europy właściwie misyjne, np. Francja, gdzie chrześcijaństwo zostało zepchnięte na daleki margines. (...) Polska, Irlandia, Chorwacja, Portugalia to są obszary gdzie wiara jest żywa i być może, że przy pomocy ludzi z tych krajów Europa wróci do swoich korzeni"*, — сказаў Стэфан Несялоўскі з Хрысціянска-нацыянальнага аб'яднання.

***Trybuna, nr 257***

Францыя яшчэ не згубіла шанцаў на збаўленне.ц Добра хаця, што ёсць з каго браць прыклад.

* * *

*Szanowny Pan*
*Jelcyn Borys Nikołajewicz*
*prezydent Rosji, Moskwa*

*Szanowny Panie Prezydencie, przekazane przez Pana dokumenty dotyczące zbrodni dokonanych na polskich jeńcach II Wojny Światowej są jeszcze jednym świadectwem okrucieństwa systemu stalinowskiego, tak głęboko sprzecznego z ideami komunizmu.*

*Rzeczpospolita, nr 2578*
*Trybuna, nr 257*

Гэты ліст падпісаў Prezydium Komitetu Wykonawczego Związku Komunistów Polskich „Proletariat".

* * *

***Галілей рэалібітаваны! Папа Ян Павел II назваў рашэнне Трыбуналу інквізіцыі, які засудзіў Галілея і яго навуку 377 гадоў таму, трагічным непаразуменнем, хаця суддзі мелі як найлепшыя намеры.***

*Rzeczpospolita, nr 258*
*Kurier Poranny, nr 229*

Выходзіць, што ўсё такі Зямля круціцца вакол Сонца?

* * *

*„Rozwiedziony: 41. Wierzący, praktykujący, przedtem żonaty z katoliczką. Szczupły, wzrostu średniego, spokojnego usposobienia. Domator. Pozna panią w wieku 35—45 lat..."*

*Przegląd Prawosławny, nr 10*

Дзядзька, хаця „wierzący i praktykujący", не ведае, што Царква не дазваляе другі раз жаніцца?

* * *

***„(...) Скепка падпісаў у Тароньце ўмову, на аснове якой забавязуецца перадаць Беласточчыне прапанаваным мужом даверу музычныя інструменты, на якія нашы суродзічы з Канады выдалі больш 12 тыс. даляраў. Гэнымі дарагімі інструмэнтамі маглі-б карыстацца іншыя калектывы для пашырэньня беларускай музыкі на бацькаўшчыне. (...) Раім нашым суродзічам у Амэрыцы і ў Беларусі трымаць Скепку на воку".***

*Зважай (часопіс беларускіх вэтэранаў), лістапад 1992, Таронта*

Камп'ютэры, якія пакрываюцца пылам у БГКТ, каштавалі звыш 50 тысяч долараў. Во, тут то трэба мець вока!

* * *

***„На XX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі (...) Ян Максімюк з Беласточчыны паінфармаваў прысутных аб сабраных матэрыялах..."***

*Голас Радзімы, н-р 39*

Сустрэча праходзіла 5,6,7 верасня (субота, нядзеля, панядзелак) сёлета ў гарадку Нью-Брансуік у штаце Нью-Джэрзі. Відаць, падчас уік-энду Максімюк паспеў злётаць туды з дакладам, пра што нам ні слова ў той панядзелак не сказаў. Толькі як ён перахітрыў амерыканскія іміграцыйныя ўлады, каб пусцілі яго ў ЗША без візы? А можа схаваўся ў таварным самалёце між пушкамі макаронаў, майткамі і банкамі польскай шынкі?

* * *

*„Szlaban na jaja"*
*Gazeta Współczesna, nr 210*

І гэта на сёння ўсё.

## З мінулага тыдня

**Новым прэзідэнтам ЗША выбраны Біл Клінтан.** Кандыдат дэмакратаў **Б. Клінтан** перамог у 33 штатах і здабыў 370 электарскіх галасоў. Рэспубліканскі кандыдат **Д. Буш** выйграў толькі ў 18 штатах і атрымаў 168 галасоў. Незалежны кандыдат **Р. Пэрот** прайграў ва ўсіх штатах.

**Нямеччына і Румынія заключылі пагадненне,** якое прадбачвае магчымасць вярнуць сілай назад 50—140 тысяч цыганоў — румынскіх грамадзян. Пагадненне аб прымусовым высяленні ўвайшло ўжо ў сілу, але ў бліжэйшыя дні транспарты румынскіх цыганоў не будуць арганізаваны з увагі на „адміністрацыйныя цяжкасці". Міжнародная арганізацыя аховы правоў чалавека Helsinki Watch асудзіла гэтае пагадненне.

**Спецыяльны пасланнік прэзідэнта Леха Валэнсы** галоўны дырэктар дзяржаўных архіваў **праф. Мар'ян Вайцяхоўскі** атрымаў у Маскве копіі сакрэтных дакументаў, якія паказваюць ролю Савецкага Саюза ў пасляваеннай гісторыі Польшчы.

**З рашучым пратэстам супраць імпарту мяса з Усходу** выступіла Салідарнасць індывідуальных сялян. Дзеячы гэтай арганізацыі расцэньваюць, што кожны дзень праз КПП у Агародніках (на мяжы з Літвою) пераязджае ў Польшчу каля ста машын з сельскагаспадарчай жывёлай. Адной з форм пратэсту можа быць блакіраванне гранічных пераходаў.

**Польшча '92** — так называецца выстаўка польскіх фірмаў, якая адкрылася ў Менску 11 лістапада г.г. На 400 кв. м плошчы свае вырабы і тэхналогіі эксапануе 25 фірмаў. Патранат над выставай узяло польскае Міністэрства гаспадарчага супрацоўніцтва з заграніцай.

**Паліцыя страляе ў злачынцаў.** У Беластоку 31 кастрычніка г.г. на чыгуначным вакзале падчас спробы затрымаць злачынцаў, якія абакралі грамадзян СНД, адзін з іх пачаў уцякаць. Паліцэйскі выстраліў за ўцекачом і забіў яго. А ў Нурцы-Станцы 2 лістапада г.г. паліцыя спрабавала затрымаць двух злачынцаў на кватэры, але адзін з іх кінуўся на паліцэйскага з нажом, а другі даў драпака. Спыніўся ён толькі тады, калі сталі страляць па ім. Абодва злачынцы апынуліся ў арышце.

**У Сельскагаспадарчым камбінаце ў Рыбалах** зладзеі ўкралі сейф вагою 400 кг, у сярэдзіне якога знаходзілася 80 мільёнаў злотых. Гэтую нялёгкую ношу пагрузілі яны на машыну і ад'ехалі ў невядомым кірунку.

## Праз тыдзень у „Ніве"

- ✓ Нацыяналізм — новая хвароба Еўропы.
- ✓ Беспрацоўе — кашмар штодзённага жыцця.
- ✓ Яшчэ раз „балахоўшчына".
- ✓ Ліцэісты з Гайнаўкі з візітам у „Ніве".
- ✓ Паланез Агінскага — новым гімнам Беларусі?

### ЯНКУ МІХАЛЮКУ - 70

Старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Янка Міхалюк адзначаў нядаўна 70-я ўгодкі з дня нараджэння. У віншавальным лісце Галоўнай управы ЗБВБ чытаем: "У гэты дзень мы з радасцю адзначаем, што справа, якой Вы як сябра і старшыня ЗБВБ усяго сябе аддаеце, не прапала марна. Не гледзячы ні на якія перашкоды, нашая Радзіма становіцца незалежнай. У гэтым ёсць і частка і Вашае самаадданае працы. Мы Вас віншуем і жадаем добрага здароўя і доўгіх гадоў на радасць Вашым родным і на карысць нашай беларускай справе".

Калектыў "Нівы" таксама далучаецца да віншаванняў!

# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### ВЯРТАННЕ ДЗЯДОЎ

Досыць насычаным быў святочны дзень другога лістапада для грамадскіх і палітычных арганізацый Беларусі.

Управа БНФ сумесна з Фондам культуры асвяціла ля будынка КДБ у Менску капліцу ў знак памяці па забітых за сталінскімі кратамі.

У Курапатах адбылася "Гадзіна смутку", а ў Доме літаратара прайшла вечарына, прысвечаная Дзядам.

У гэты ж дзень у мястэчку Косава Івацэвіцкага раёна па ініцыятыве Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады і ТБМ імя Ф. Скарыны адбылося ўшанаванне памяці беларускіх патрыётаў, якія былі расстраляны польскімі ўладамі ў час мірнай дэманстрацыі 1927 года. А ля будынка былой турмы ў Бярозе прайшоў мітынг-рэквіем, прысвечаны памяці загінуўшых за свабоду Беларусі.

### РЭВАЛЮЦЫІ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА

Хоць і не адзначана ў новых беларускіх календарах 7 лістапада рэвалюцыйным чырвоным колерам, Менскі гарадскі камітэт партыі камуністаў Беларусі застаецца верным бальшавіцкай традыцыі.

Менскі гарвыканкам дазволіў арганізатарам у рамках святкавання 75-годдзя памятнай усяму свету падзеі сабрацца на плошчы Незалежнасці, ускласці кветкі да помніка Леніну, правесці дэманстрацыю па праспекце Скарыны /былому Ленінскаму/ да плошчы Перамогі і мітынг у парку імя Горкага, які апошнім часам амальператварыўся ў арэну палітычных баталій.

### ПАКУЛЬ МУЗЫКІ ГРАЮЦЬ, ПАЛІТЫКІ МАЎЧАЦЬ

Беларусы больш не шукаюць шляхоў да шчасця побач з "братняю Руссю", але афіцыйна прызнанага гімна пакуль не маюць. Напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у канцэртнай зале філармоніі адбылося праслухоўванне конкурснай праграмы, куды ўвайшлі дзесяць варыянтаў, сярод якіх, дарэчы, паланез Агінскага, і варыянт, прапанаваны беларускай дыяспарай Беластока.

Ні дзеячы музыкальнай культуры, ні парламентарыі не здолелі зрабіць выбар: усе творы, выкананыя аркестрам "Няміга" пад кіраўніцтвам Льва Муранава, напісаны высокапрафесійна, вытрыманы ў нацыянальным стылі і не пакідаюць слухачоў раўнадушнымі.

### ГОНАР МАЮ

Днямі ў Менску адбыўся Устаноўчы сойм Згуртавання беларускае шляхты /ЗБШ/. У ім прынялі ўдзел каля ста нашчадкаў знакамітых на Беларусі родаў. Кожны дэлегат атрымаў правы голасу толькі пасля праверкі яго радаводу спецыяльнай арганізацыйнай камісіяй, якую ўзначальваў вядомы на Беларусі гісторык Анатоль Грыцкевіч. Беларуская шляхта прыняла свой статут, праграму, абрала Найвышэйшую раду.

Узначаліў ЗБШ Анатоль Грыцкевіч.

### ДЭМАКРАТЫЧНАЯ АЙЧЫНА Ў НЕБЯСПЕЦЫ!

Чарговы блок дэмакратычных сілаў утварыўся на Беларусі. На мінулым тыдні ў Менску адбылося першае пасяджэнне кансультацыйнай нарады патрыятычна-дэмакратычных сілаў рэспублікі. У ім прынялі ўдзел прадстаўнікі кіраўніцтва Беларускага згуртавання вайскоўцаў, Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, Сялянскай партыі, прафсаюзаў, ТБМ, згуртавання "Бацькаўшчына", партыі Народнай згоды, Саюза пісьменнікаў, партыі навукова-тэхнічнага прагрэсу. Было вырашана кансалідаваць усе дэмакратычныя сілы дзеля адраджэння культуры, дэмакратыі і незалежнасці Беларусі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# ПЕРАД З'ЕЗДАМ ТАВАРЫСТВА

☛ *Працяг са стар. 1.*

памяшканняў у Гданьску, Варшаве і Бельску-Падляшскім. Невядома як будзе ў Беластоку, сказаў Ян Сычэўскі, але мусіць прысутны тут прэзідэнт Беластока не дазволіць, каб апынуліся мы на вуліцы...

Сітуацыю беларускай грамадскасці ў Польшчы /другі пункт парадку дня/ прадставіў Аляксандр Баршчэўскі. Можна было б, сказаў ён, гэтага пункта ўвогуле не разглядаць, бо ўсе мы і так ведаем, як нам жывецца. Ёсць такая беларуская прымаўка - як пасцелешся, так і выспішся, а ў беларусаў, гаварыў А. Баршчэўскі, інтэрнацыянальная свядомасць заўсёды перавышала нацыянальную. У далейшым старшыня ГП БГКТ прывёў выказванні сялян пра свабоду і незалежнасць: "Гарбачоў развaліў сваёй свабодай спакойнае жыццё грамадзяніна", "іншая справа свабода для англічаніна, а іншая для нашага чалавека - дай дураку свабоду, то выкарыстае яе для дракі". У мяне каля ста такіх выказванняў, сказаў А. Баршчэўскі. Яны сведчаць пра тое, што людзі не разумеюць незалежнасці і свабоды ды магчымасцяў, якія яны адчыняюць. У час выбараў беларусы не падтрымалі "Салідарнасць" - цяпер жа праходзіць працэс збліжэння абедзвюх грамадскасцяў, бо залатыя горы, якія абяцалі палітыкі, не апраўдаліся. Таварыства павінна дзейнічаць у такім духу, што павароту да старога няма. Тое, што сёння адбываецца - рэвалюцыя, а ў ёй ніколі не было парадку. Таварыства не павінна падаграваць пазіцый апазіцыйнага тыпу, сказаў А. Баршчэўскі.

Міністэрства культуры не дасць сродкаў на справаздачна-выбарную кампанію, сказала сакратар ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч, прадстаўляючы трэці пункт парадку Пленума. У сувязі з гэтым мяняюцца некаторыя прынцыпы яе правядзення. Дэлегаты маюць прыехаць у Беласток за свой кошт. Кампанія пачынаецца 1 лістапада, а XII З'езд Таварыства адбудзецца ў красавіку 1993 года. Праект рэгламенту адбору дэлегатаў, прапанаваны Валянцінай Ласкевіч, прадугледжваў 55 дэлегатаў на XII З'езд Таварыства. Удзельнікі пленума сцвердзілі, што цяпер патрэбнае больш шырокае прадстаўніцтва. Аляксандр Баршчэўскі запрапанаваў павялічыць лік дэлегатаў да ста чалавек. Доктар Ян Зенюк прабіваў ідэю, каб далажыць яшчэ па адным дэлегаце з кожнага гуртка і аддзела Таварыства. У галасаванні прайшла ідэя павелічэння ліку дэлегатаў з гурткоў і аддзелаў на 50 працэнтаў.

У новым 1992/93 асветна-культурным годзе, сказаў Ян Сычэўскі, рэалізуючы чацверты пункт пленума, Таварыства павінна праводзіць тыя ж формы дзейнасці, што і ў мінулых гадах. З'явілася новая ініцыятыва - напераменнае мерапрыемства ў Беластоку і Гародні - "Фестываль беларускай песні", замест "Беластоцкіх мальваў" /ідэя Міністэрства культуры і мастацтва/. Таварыства шукае ахвотных дапамагчы беларускай культуры. З боку беларускага бізнесу, гаварыў Ян Сычэўскі, ёсць абяцанне такой дапамогі, але, як паказвае практыка, найчасцей яно не апраўдоўваецца. У арганізацыі фэстаў дапамаглі Таварыству самаўрады і войты. Таварыства, сказаў Я. Сычэўскі, будзе і надалей намагацца, каб самаўрады падтрымлівалі беларускую культуру ў гмінах /грошы для інструктараў беларускіх калектываў і на беларускія імпрэзы ў гмінах/.

Пасля невялікага перапынку адбылася дыскусія. Першым голас узяў Аляксандр Баршчэўскі, які выказаў сваё здзіўленне, што пленум надзвычай спраўна праходзіць. Ян Чыквін /старшыня Праграмнай рады Тыднёвіка "Ніва"/ запрапанаваў, каб Галоўнае праўленне або Прэзідыум ГП заняў становішча адносна невыкарыстання камп'ютэраў, на якіх рабіўся раней набор "Нівы". Камп'ютэры, адказваў яму А. Баршчэўскі, наша ўласнасць. Яны былі бяспраўна /без кансультацыі з Галоўным праўленнем Таварыства/ перададзены В. Стахвюком у "Ніву". Мы забралі толькі сваю ўласнасць. З камп'ютэраў гэтых "Ніва" можа карыстаць у тыя дні, у якія ёй выгадна. Таварыства не хоча за гэта ніякай аплаты, хіба што за электраток. Не сакрэт таксама, сказаў яшчэ А. Баршчэўскі, што Таварыства імкнецца стварыць на базе камп'ютэраў і Беларуская музея культуры цэнтр. */Камп'ютэры паслужаць там, праўдападобна, для вырабу таблічак з подпісамі музейных экспанатаў - А.М./* Ні Галоўнае праўленне, ні Прэзідыум ГП прапанову Яна Чыквіна не разглядалі - не прынялі таксама аніякага становішча ў справе нявыкарыстаных камп'ютэраў. Ці трэба тут лічыць, што становішча А. Баршчэўскага /ці мала разоў у публічных выказваннях падпіраўся ён аргументам "гавару выключна ад свайго імя"/ - гэта становішча ўсяго Галоўнага праўлення?

У дыскусіі слова браў яшчэ доктар Ян Зенюк, які гаварыў пра супрацоўніцтва ў шырокім сэнсе гэтага слова. Канстанцін Майсеня заўважыў, што эканамічная сітуацыя беларускіх арганізацый "нэндзная", а Міністэрства культуры адводзіць сродкі толькі на канкрэтныя мерапрыемствы. Беларускі музей, сказаў ён, ужо выкананы. Трэба нам пагадзіць усе рассвараныя групы, трэба ўсім нам яшчэ сустрэцца. У сустрэчы такой перашкаджаюць усяго адзінкі. Трэба іх адсунуць, сказаў К. Майсеня. Польшча, адзначыў Антон Міpановіч, падпісала ўжо ўсе пагадненні адносна забеспячэння правоў нацыянальным меншасцям. Нічога ёй не застаецца, як ажыццявіць гэтыя ж пагадненні, а ў сувязі з гэтым наша сітуацыя, як і польскіх культурных устаноў, будзе палепшвацца з цягам часу. А. Міpановіч запрапанаваў, каб адзін з тэзісаў "Асноў справаздачна-выбарнай кампаніі" /адмысловы дакумент падрыхтаваны Таварыствам на пленум Галоўнага праўлення/ гучаў: "Хочам актывізаваць супрацоўніцтва з усімі беларускімі арганізацыямі..", а не толькі "... з такімі канструктыўнымі сіламі, як беларускае настаўніцтва..." Аляксандр Баршчэўскі згадзіўся, што крок такі можна зрабіць, нягледзячы на тое, што з гэтага вынікне. БГКТ ніколі не адкідала супрацоўніцтва з іншымі беларускімі арганізацыямі.

У дыскусіі слова ўзялі таксама госці. Эўгеніюш Біль-Ярузельскі сказаў, што ў галіне культуры палякі і беларусы могуць сёння лепш пазнаёміцца. Казімеж Дэркоўскі адзначыў, што гэтае пленум самае разумнае, у якім ён удзельнічаў. Няма грошай, але людзі не апусцілі рук, не бядуюць. Прэзідэнт Беластока Лех Руткоўскі сказаў, што недахоп сродкаў - агульная з'ява. Трэба шукаць іншых дарог выйсця - спонсарства. Што датычыць утрымання будынкаў, дык нічога тут не зробіш - горад жыве перш за ўсё з падаткаў. У працы трэба сёння больш разлічваць на самога сябе. Я думаю, сказаў на заканчэнне прэзідэнт Беластока, што Таварыства падрыхтаванае, каб такім чынам весці далейшую сваю дзейнасць.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

***/** *Рэдакцыя паясняе, што ў бібліятэцы "Нівы" знаходзіцца толькі адзін экземпляр спеўніка.*

---

# На Сход, на Бацькаўшчыну!

Шаноўныя суродзічы!

Яшчэ ўчора мы жылі ў адной дзяржаве, а па сутнасці ў апошняй імперыі пад назвам СССР. Але яна распалася, узніклі самастойныя краіны, а з імі і межы, мытні, і самыя нечаканыя праблемы. Асабліва для таго, хто па волі лёсу апынуўся ўдалечыні ад Бацькаўшчыны. Ды нельга перарваць повязь, што існуе паміж людзьмі аднаго роду, адной нацыі, адной культуры і мовы. Кожная дзяржава, калі яна сапраўды стаіць на варце інтарэсаў роднага народа, павінна дбаць пра расцярушаных па свеце суродзічаў. А калі не, дык народ абавязан сам клапаціцца пра сябе.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" у адпаведнасці са сваім Статутам, пры падтрымцы іншых патрыятычных сіл і пры спрыянні дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь узяло на сябе ініцыятыву склікання і правядзення Першага Сходу беларусаў блізкага замежжа, які будзе, спадзяёмся, значным этапам перад Форумам беларусаў свету ў ліпені наступнага года. Мы хочам бачыць на ім дэлегатаў ад усіх рэгіёнаў былога Саюза, родны нам Беласточчыны, а таксама прадстаўнікоў далёкага беларускага замежжа, усіх, у кім б'ецца шчырае беларускае сэрца, хто адчувае незварушную лучнасць з Бацькаўшчынай.

Сход будзе праходзіць пад дэвізам "Мы не пасынкі твае, Беларусь", а гэта прадбачвае, што беларусы з усяго еўрапейскага і азіяцкага абшару прывязуць у стольны Менск і выкладуць перад афіцыйнымі ўладамі і грамадскай супольнасцю набалелае, раскажуць, што перашкаджае ім адчуваць сябе поўнапраўнымі дочкамі і сынамі сваёй Маці-Беларусі.

На Сходзе найперш будуць узняты такія праблемы, як набыццё замежнымі беларусамі грамадзянства Рэспублікі Беларусь, а таксама маёмасці, як праблема вяртання беларускіх афіцэраў на Бацькаўшчыну ці стварэнне ў Менску Беларускага Дому, што мог бы стаць родным для беларускага замежжа, паказваць яго ўклад у духоўную скарбонку роднага народа, і шмат іншых пытанняў, якія, зразумела, вы павінны сфармуляваць і ўзняць самі, а мы тут на іх адказаць.

Мы хацелі б, каб час, які застаўся да склікання гэтага Сходу, актывізаваў усіх беларусаў у іх патрыятычным самавызначэнні, паспрыяў іх арганізацыйнаму афармленню на абшарах былога Саюза, яднанню, бо, як сцвярджае спрадвечная народная мудрасць - сіла ў грамадзе! Дык няхай адгукнецца на покліч братняе сэрца, няхай беларус падасць руку беларусу і ўсе мы збяромся на наш Першы, на наш вялікі Усебеларускі Сход!

**Аргкамітэт Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"**

Першы сход беларусаў блізкага замежжа адбудзецца ў Менску 19-20 снежня 1992 г., вул. Фрунзэ 5, Дом літаратара. Просім усіх, хто хоча ўзяць у ім удзел, пра сваю згоду паведаміць зараней на адрас старшыні Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Яўгена Лецкі: 220053, Рэспубліка Беларусь, Мінск, Даўгінаўскі тракт, д. 52, кв. 9. /тэл. і факс - 37-91-87/, патэлефанаваць у "Бацькаўшчыну" /27-32-38/, альбо старшыні Аргкамітэта Сходу Валеру Герасімаву /26-63-52 /х./, 20-10-66 /сл./.

Шчыра запрашаем!

# ЗА ШТО ЗМАГАЮЦЦА НАСМЕШНІКІ

Надпіс на мемарыяльнай дошцы, прымацаванай да валуна, што знаходзіцца ў Белавежы перад царквой, у месцы, дзе немцы ў час апошняй вайны павесілі дзевяноста чалавек, яшчэ некалькі гадоў таму назад нікому не перашкаджаў. Зараз жа ён некаторым людзям вельмі коле ў вочы, хаця, каб яго прачытаць, трэба падыйсці да валуна на некалькі крокаў. Ужо пару разоў мне прышлося пачуць, зусім выпадкова, як экскурсаводы робяць з яго сенсацыю проста! Яны амаль і не ўспамінаюць пра трагічныя падзеі, якія мелі тут месца паўвеку таму, а „каменцірують" менавіта надпіс. Што ж тады ён абвяшчае? — спытае чытач. А тое, што людзі тутака загінулі за „свабоду і сацыялізм"!

Насмешнікам гэтым не даспадобы перш за ўсё „сацыялізм". Некаторым мяшае і „свабода". „Бо якая ж гэта была ў нас свабода", — кажуць. Я б не здзіўляўся, калі б гэткія словы выходзілі з вуснаў людзей, якія шмат што страцілі ва ўмовах пасляваеннага ладу. Але ж гавораць іх тыя, якія ў многім чым абавязаны той жа „свабодзе" і таму ж „сацыялізму". Ці яны сапраўды не ўсведамляюць сабе гэтага? Каму, як каму, але ім выпадала б прынамсі маўчаць!

Ёсць жа і такія людзі, якія абураюцца на гэты надпіс нават у прэсе. Вось, у 23 н-ры „Gościńca Hajnowskiego" Віктар Кабац у паклёпніцкім артыкуле „Nic się nie zmienia" прысвячае некалькі радкоў той жа справе. Яго таксама нервуе „сацыялізм". Быццам не ўсе тут змагаліся за сацыялізм! А адкуль гэта вядома В. Кабацу? Ён можа кантактаваўся з душамі павешаных? Я не хачу ўваходзіць у спрэчку з В. Кабацам, але і яму можна паставіць закід, што ён таксама ў свой час услаўляў сацыялізм. Гэта ж ён праектаваў п'едэстал пад танк, які стаяў у гарадскім скверыку ў Гайнаўцы. Калі ён думае, што змазаў свой грэх уласнаручна разбіваючы твор сваёй думкі і рук, памыляецца. Памяць аб учынках астаецца! Зараз ён запраектаваў новы помнік, пад новыя часы: з літары „V" (сімвала перамогі) вырастае крыж. Значыць, крыж пераможа!

Я ў гэтым згодны, крыж усіх нас пераможа. І хаця б таму праяўляйма больш розуму, больш далікатнасці ў справах, якія таго патрабуюць, і перш за ўсё больш пашаны для тых, якіх сярод нас ужо няма. Ім нашыя насмешкі непатрэбныя. Я ўпэўнены, што многія павешаныя перад царквой змагаліся менавіта за сацыялізм!

**П. БАЙКО**

## "ВАЦЛАЎ ІВАНОЎСКІ І АДРАДЖЭННЕ БЕЛАРУСІ"

*Пра сваю кніжку гаворыць аўтар:*

Асобай Вацлава Іваноўскага пачаў я цікавіцца гадоў 15 таму назад. Заінтрыгавала мяне тое, што ўсе на яго накідаліся, усе яго лаялі. Думаў я, чаму? Няма ж чалавека абсалютна добрага або абсалютна дрэннага, у кожнага ёсць крыху аднаго і другога. Чаму затым Іваноўскі ўсім прыйшоўся не даспадобы?

Не пасаваў ён да вобразу мужыцкага беларускага руху - паходзіў з добрай гербовай сям'і, хаця да крупнага памешчыка было яму яшчэ далёка. Чаму ён свядома выбірае сваёй мэтай служэнне беларускай нацыянальнай ідэі? Мала таго, ён гэтую ідэю стварае.

Не раз задаваў я сабе пытанне, як нарадзілася беларуская незалежніцкая думка. Тут трэба катэгарычна сцвердзіць, што такой палітычнай думкі ў XIX ст. не было. Я не веру, пры поўнай пашане да Аляксея Каўкі /*Ю. Туронак мае на ўвазе канцэпцыю, выказаную А. Каўкам у ягонай кніжцы "Тут мой народ" - М.В.*/, што існавала пераемнасць ідэі Скарыны маладым нацыянальным рухам. Калі было так добра, дык чаму, на самай справе, было так кепска? Чаму толькі ў пачатку нашага стагоддзя з'явілася нацыянальная свядомасць, ствараліся нормы літаратурнай мовы?

Усе ведаем пра піянерскую ролю суполкі "Загляне сонца і ў наша ваконца" ў галіне кнігадрукавання. Але чамусьці нічога не ведаем пра яе заснавальнікаў, кіраўнікоў, а суполка - гэта ж людзі. А пра людзей нічога не гаварылася, бо яны былі нядобрыя. У савецкай гістарыяграфіі існаваў прынцып, што калі чалавек дрэнны, значыць вораг народа, дык пра яго інакш як дрэнна гаварыць нельга. Або яшчэ лепш - прамаўчаць, выкрасліць прозвішча.

Так зрабілі і з Іваноўскім. Яго прозвішча выкраслілі з беларускай гісторыі, а калі ўпаміналі яго, дык як лютага ворага ўсяго савецкага, пачынаючы з Кастрычніцкай рэвалюцыі. А гэта ж няпраўда. Вацлаў Іваноўскі ў сваіх палітычных разліках арыентаваўся на Расею. Ужо да рэвалюцыі прытрымліваўся ён погляду, што Беларусь зможа развівацца толькі ў цеснай сувязі з рускім рынкам, але галоўную стаўку рабіў на ленінскую нацыянальную палітыку. Расчараваўся да яе толькі тады, калі Ленін праз Мархлеўскага таргаваў Беларуссю - аддаваў столькі палякам, колькі тыя захочуць. Вось якая праўда.

У выніку свае працы я зразумеў, што Вацлаў Іваноўскі ўсё жыццё ставіў сабе адну мэту - незалежная беларуская дзяржава. Усе арыентацыі, ці то на Расею, Польшчу, ці Нямеччыну мелі тактычны характар. Ён усіх разглядаў як патэнцыяльнага саюзніка, або патэнцыяльнага ворага. Усё залежала ад таго, як гэтыя бакі ставіліся да беларускай дзяржаўнасці.

Другая важная праўда, якая мне адкрылася, гэта тое, што менавіта Вацлаў Іваноўскі запачаткаваў сучасную беларускую свядомасць. Ён заснаваў першую палітычную арганізацыю - Беларускую рэвалюцыйную партыю, - затым быў адным, побач з Луцкевічамі, са стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай грамады. Так на месца этнаграфічнай з'явы прыходзіла палітычная нацыя.

Па-трэцяе: Вацлава Іваноўскага трэба лічыць бацькам беларускага кнігадрукавання. Мне заўсёды хочацца перафразаваць словы Багдановіча "ад Максіма-кніжніка пачатак" на "ад Вацлава-кніжніка пачатак". Малады інжынер-хімік за колькі гадоў да з'яўлення граматыкі склаў першы буквар - "Беларускі лямантар". Гэта ён заснаваў і ўзначаліў суполку "Загляне сонца і ў наша ваконца", з якое і пачалося рэгулярнае выданне кніжак беларускаю моваю.

Пры тым усім Вацлаў Іваноўскі быў чалавекам надзвычай сціплым, заўсёды памагаў іншым, ніколі не ставіў свае асобы на першае месца. Гэта ён першы ўласціва ацаніў талент Янкі Купалы, апекаваўся ім у Пецярбурзе і выдаў першыя зборнікі. Так было на працягу цэлага ягонага жыцця. Пра гэта памяталі людзі, якія Іваноўскага ведалі асабіста. Яны дапамагалі мне ўстанавіць шмат якія факты, высніць пэўныя фрагменты біяграфіі. Ва ўступе да кніжкі дзякую я гэтым людзям. Але, што аказваецца - сёння ў жывых толькі адна асоба, дачка Вацлава, Анна Іваноўская-Карнэцкая. Я зразумеў, што калі б я не пачаў збіраць матэрыял для кніжкі яшчэ ў 70-ыя гады, яе сёння не было б.

Я прадставіў свой пункт погляду, пры чым удакументаваны, на асобу Вацлава Іваноўскага і яго месца ў нашай гісторыі. Цяпер час распачаць дыскусію. Пара выказацца іншым гісторыкам, апанентам, крытыкам.

Запісаў **МІКОЛА ВАЎРАНЮК**



Юры Туронак у кулуарах Міжнароднага кангрэса беларусістаў — Менск'92
*Фота С. Крыцкага*



## МЕНШАСЦЬ У ДЗЯРЖАВЕ - БОЛЬШАСЦЬ У ГМІНЕ

Чаму мы, беларусы Беластоцкага краю, два разы прайгралі выбары?

І наступнае пытанне: Чаму прайграем і трэці раз, і чацверты?..

Пакуль Беларускаму выбарчаму камітэту на чале з мец. Пятром Юшчуком захочацца, нарэшце, перапісаць з ваяводскіх архіваў канкрэтныя лічбы галасоў у паасобных раёнах у апошнюю кампанію, усю гэту нашу тут палітычную геаграфію, адразу скажу: трэба прымаць удзел у парламенцкіх выбарах не толькі ў трэціх і чацвертых, але стала і заўсёды. Удачы не будзе, - аб чым гавару далей, - аднак жа беларускі рух не можа сыйсці з публічнае сцэны ў нейкі прыватны куточак, уступаючы поле барацьбы іншым. Вялікая справа: **быць прысутным!** Бо, гэта - раней або пазней - гарантуе перамогу, якая ніколі не сыплецца маннаю з неба. Патрэбны дзеля яе доўгі і марудны працэс росту нацыянальнай свядомасці, пачуцця адказнасці за ўсю грамаду, выхад з дзікага эгаізму ў шырокую чалавечнасць.

На такія і падобныя думкі насоўваюць вынікі нядаўніх парламенцкіх выбараў у Літве менавіта. Чым мяне як беларуса яны здзівілі? Польская нацыянальная меншасць там палітычна рэагуе аналагічна, як наша тут. На Віленшчыне, на якой саміх літоўцаў працэнтна куды менш, чымсьці палякаў у вясковамястэчковай Беласточчыне, галасы выбаршчыкаў пасыпаліся на посткамуністычную партыю Альгірдаса Бразаўскаса. І на іншыя літоўскія партыі. На ўласных жа кандыдатаў у парламент прагаласаваў толькі кожны чацверты тамашні паляк. Трэба дадаць: звыш паловы іх наогул не прыйшлі да урнаў; дакладна, як і ў нас.

Калі б не той факт, што літоўскі выбарчы закон аказаўся дэмакратычнейшым за польскі, не было б аніводнага дэпутата-паляка ў новым парламенце Літвы. Прабілася іх некалькі; як бачна, не столькі дзякуючы сваёй польскасці, колькі таму, што пайшлі на выбары ў спісках менавіта літоўскіх партыяў. Характэрнае і тое, што кампраметуюча праваліласяя кандыдатура самога шэфа Саюза палякаў у Літве. А здавалася б, хто як хто, але ён пяройдзе цалкам гладка; свой сярод сваіх жа. І на табе!

Нацыянальныя меншасці заўсёды баяцца аднаго: нацыяналізму і праследаў з боку пануючага народа. Пры тым дасканала разумеюць яны, што свой прадстаўнік у парламенце дзяржавы самотна не абароніць ад крыўдаў; не здолее заступіцца і цэлая група іх, як цяпер нямецкі клуб у варшаўскім Сейме. Выснова адсюль простая: трэба падтрымліваць такую палітычную сілу ў краіне, якая абяцае ўстанавіць справядлівейшую ўладу /у Літве палякі баяцца "Саюдзіса", а беларусы ў Польшчы небеспадстаўна дрыжаць ад "Салідарнасці"/.

У сферах усяпольскай палітыкі, як я разумею, беларусы не памыляюцца. Затое дапускаюць яны непрабачальную ім памылку ў выбарах гмінных і гарадскіх радаў, у якіх маглі ж займець вырашальны голас /прыкладам, як у Гарадку, у гміне якога амаль усе райцы паходзяць ад Беларускага дэмакратычнага аб'яднання/. Што перашкодзіла затым, каб у Бельску, у якім пераважаюць тыя ж беларусы, быў беларускі бургамістр? І чаму ў Гайнаўскім магістраце няма свайго хаця б віцэбургамістра? У Беластоку смела мог бы ўзнікнуць важны клуб беларускіх райцаў, аж дзесяціасабовы, замiж аднаго-адзінюткага і бездапаможнага Ваўранюка.

Безабароннасць у мерках усяе дзяржавы не мусіць значыць, таксама, безабароннасць у сваіх жыццёвых справах у гміне, у мястэчку; у Бельску, у Гайнаўцы, або і ў Беластоку.

**Тут мы сапраўды можам самі вырашаць свой тутэйшы лёс.**

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## ЛАЯЛЬНЫЯ І НЕЛАЯЛЬНЫЯ

Некаторыя гавораць, што ёсць народы лепшыя і горшыя. На маю думку ёсць толькі лепш і горш арганізаваныя нацыі. Мы, на жаль, належым да гэтых апошніх. Нашым няшчасцем з'яўляецца не толькі брак арганізаванасці, але і адказнасці нашых дзеячаў за тое, што робяць і гавораць, уліку інтарэсаў цэлага грамадства і ігнаранцыя яго фактычнага інтэлектуальнага ўзроўню.

Ці, напрыклад, ведаюць што робяць нашыя „заслужаныя дзеячы”, якія, ходзячы па кабінетах дзяржаўных установаў, безупынна паўтараюць: „Мы лаяльныя, мы заўсёды былі лаяльнымі”. Можна было б літавацца над імі, бо смяюцца з іх нават тыя, якіх пераконваюць яны ў сваёй лаяльнасці. Адзін з беластоцкіх урchurnікаў гаворыць так: „Калі першы раз пачуў я пра дэклараваную імі лаяльнасць, неяк гэта пераляцела мне каля вушэй, бо ўсім тут вядома, каму паслушнымі былі яны пару гадоў таму назад. Але калі я другі і трэці раз пачуў гэтую самую фразу, пачаў задумоўвацца — у чым тут справа? Ці хочуць яны сказаць, што ёсць тут хтосьці нелаяльны, ці можа даказваюць, што вярнуліся сувязі з ранейшай фірмай, якой былі яны лаяльныя трыццаць пару гадоў? На ўсякі выпадак я пачаў вельмі ветліва гаварыць з імі і абяцаў сабе ўсміхацца да іх, нават калі б балелі мне зубы”.

У сапраўднасці, невядома чаму пры кожнай нагодзе „заслужаныя беларусы” пераконваюць прадстаўнікоў улады ў сваёй лаяльнасці. Магчымыя толькі дзве прычыны. Адна можа выцякаць з іх інфантылізму, пераканання, што ў такі лёкайскі спосаб — так як у мінулую эпоху — можна нечага дабіцца. І другая, якая выплывае можа толькі з крывадушнасці — даць зразумець каму трэба, што сярод беларускага грамадства ёсць і тыя нелаяльныя, і ў такі спосаб абмежаваць канкурэнцыю. Зразумела, што ў таго, хто слухае, узнікае пытанне: хто такі тыя нелаяльныя, і якія злачынствы яны зрабілі?

Не хочацца верыць у гэтую другую версію, і лепш было б, каб гэтая наўінная балбатня была толькі вынікам дурноты нешчаслівых — у сапраўднасці — людзей.

**ІГНАТ АЗІЯТОВІЧ**

## ПАКРОЎ ПРАЧЫСТАЙ БАГАМАЦІ АБО ЯК УЗНІКЛА ВЁСКА ПУХЛЫ

14 кастрычніка вернікі прыхода Апекі Божай Маці ў Пухлах спраўляюць парафіяльнае свята. Калісьці "Літоўскія Епархіяльныя Ведамасці" пісалі пра гэта прыблізна так:

У Бельскім уездзе Гродзенскай губерні знаходзіцца невялікае сяло Пухлы, раскінутае на правым беразе рэчкі Нарва. У гэтым сяле з незапамятных часоў існуе прыхадская царква, у якой знаходзіцца цудатворная ікона Пакроў Святой Багародзіцы. З'яўленне гэтай іконы датуецца прыблізна канцом XVI стагоддзя. Сярод народу бытуе паданне з тых часоў. Сяло тады было вялікае, а ў ім меў маёнтак памешчык-каталік. У цэркаўку хадзілі сяляне і з навакольных вёсак: Целушкоў, Сакоў, Давідавічаў і іншых. Шмат крыўды перанеслі навакольныя жыхары ад памешчыка, які хацеў іх акаталічыць. Яшчэ больш - ад яго дарадчыкаў-езуітаў.

Маці Божая выявіла праваслаўным цудоўны воблік свой на ліпе, якая расла ля царквы. Першым цудам гэтае іконы было аздараўленне аднаго жыхара ад смяротнай пухліны. Ад гэтага, як кажуць, пайшла назва вёскі Пухлы. Ікона праявіла сваю цудадзейнасць і ў далейшым: аздараўленні цяжка хворых, выратаванні ад бедаў і няшчасцяў, абарона праваслаўнага насельніцтва ад паўстанцаў 1863 года.

Сама ікона знаходзіцца на ўсходняй сцяне алтара за прастолам. У вялікія святы ікону выносяць на сярэдзіну царквы, каб людзі маглі маліцца поблізу.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## ЮБІЛЕЙ ГОМЕЛЯ

Тэлеграма-запрашэнне на святкаванне 850-годдзя Гомеля была для мяне чымсьці нечаканым. Дзе Гданьск, дзе Гомель! Але калі пра цябе не забываюць сябры з Беларусі, і калі ёсць магчымасць пабываць у горадзе, які пацярпеў ад радыяцыі, чаму ж не паехаць.

З нагоды свята з'ехалася многа дэлегацый з розных краін Еўропы і былога Савецкага Саюза, каб наладзіць гаспадарчыя кантакты і дапамагчы ў ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай трагедыі.

Гомель — вялікі горад (600 тысяч насельніцтва), распалажаны на высокім беразе Сожа ў паўднёва-ўсходняй частцы Беларусі. Прамысловай прадукцыяй уступае ён толькі Менску.

Горад існаваў да першага запісу ў 1142 годзе. З даўняга горада асталося некалькі мураваных дамоў, палац Паскевіча, сабор. Чаго не разбурыла вайна або проста час, тое развалілі бальшавікі ў трыццатыя і пяцідзесятыя гады. Так зрэшты як і ва ўсіх гарадах Беларусі, каб знішчыць усё нацыянальнае, а стварыць савецкае. Далей галоўнай вуліцай Гомеля з'яўляецца Савецкая і выходзіць яна на агромністую плошчу Леніна з ягоным помнікам. Такіх помнікаў у Гомелі бадай з дваццаць.

Урачысты канцэрт з нагоды юбілею адбыўся 25 верасня г.г. з удзелам гамяльчан і запрошаных дэдегацый. Пачаўся ён зусім па-новаму: камерны хор абласной філармоніі пад мастацкім кіраўніцтвам Алены Сакаловай адспяваў „Верую" П. Чайкоўскага. Потым выступалі гарадскі сімфанічны аркестр, харавыя і танцавальныя калектывы розных дамоў культуры, заслужаныя работнікі культуры і артысты.

Мы тут у Польшчы забылі ўжо пра гэтага роду канцэрты. Камерцыялізацыя культуры раскінула калектывы розных дамоў культуры, у якіх зараз нярэдка адкрываюцца проста склады. На юбілейныя ўрачыстасці ў Гомелі глядзеў я як на штосьці ўжо гістарычнае, характэрнае сацыялістычнаму ладу.

*Трэба дома бываць часцей,*
*Трэба дома бываць не госцем,*
*Каб душою не ачарсцвець*
*І не страціць святое штосьці...*

Гэтымі словамі пачынаўся канцэрт у Гомелі, а я імі канчаю сваю карэспандэнцыю з пабыўкі прадстаўніка гданьскіх беларусаў у далёкім Гомелі. Думаю, што эмігранты заўсёды трацяць „святое штосьці", калі дома бываюць госцем.

**МІХАСЬ КУПТЭЛЬ**

## ПАМЁР ЭМІР ХАЗБІЕВІЧ

27 верасня 1992 г. адыйшоў у вечнасць на 62-м годзе жыцця Эмір Хазбіевіч. Нарадзіўся ён у татарскай сям'і ў Заходняй Беларусі. Бацька яго меў млын, за што ад савецкай улады спаткала ссылка ў Сібір. Таму пасля вайны пакінуў Беларусь і разам з іншымі рэпатрыянтамі апынуўся ў Польшчы. З Эмірам Хазбіевічам пазнаёмілася я тры гады таму назад, калі пачала рассыпацца старая палітычная сістэма. Быў ён тады старшынёй гданьскага Таварыства польска-савецкай дружбы.

На нашую прапанову гэтае Таварыства рашыла перадаць нам сваю мэблю. Тады і завітаў у наш беларускі клуб спадар Эмір Хазбіевіч. На прывітанне сказаў ён мне: „Я самы заўзяты беларус у Гданьску". „Шкада, што раней мы не пазнаёміліся", — адказала я. Эмір Хазбіевіч расказаў нам тады такую гісторыю. Калі толькі прыехаў у Гданьск, спаткаў свайго сябру беларуса з беднай сялянскай сям'і. Калі загаварыў ён да яго па-беларуску: „Здароў Васька", пачуў у адказ: „Я тут ужо не Васька, а Станіслаў". Эмір застаўся Эмірам. Большасць свайго жыцця прысвяціў ён асвеце — працаваў куратарам, дырэктарам школы, настаўнікам. Вучыў таксама дзяцей гданьскіх беларусаў.

Мацей Канапацкі сказаў, што Эмір Хазбіевіч быў першым татарам, якога пазнаў у Гданьску, і яму першаму прыйшлося з ім развітацца пасля ягонай смерці. Пахаванне адбылося 30 верасня г.г. у мусульманскім квартале могілак Срэбжыска ў Гданьску. У мячэці фрагменты Карана Мацей Канапацкі чытаў на беларускай мове. Паяснiў ён, што гэтай мовай у маладосці і ў апошнія дні свайго жыцця карыстаўся Эмір Хазбіевіч.

На пахаванне з'екаліся татары з цэлай Польшчы, а на могілках часта гучала беларуская мова. Татары з Беларусі, рэпатрыянты, так як Эмір Хазбіевіч, не забылі свайго дзяцінства.

Пасля пахавання ўзяла я ў рукі кніжку Янкі Станкевіча „Беларуская мусульманне і беларуская літаратура арабскім пісьмом" (Вільня 1933) і прачытала фрагмент Карана: „Вызначаным ёсць канец жыцця, ніхто не здалее яго ні прадаўжыць, ні скараціць на хвіліну".

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

## АЛЬГІС ЕГЕРСКАС — ЯК КАШПІРОЎСКІ

Альгіс Егерскас — летувіс. Яму 56 гадоў. Прафесія Егерскаса — матрос і авіятар. У 1976-79 вучыўся ён у народным медычным універсітэце і прылічыў шмат курсаў і экзаменаў у цэнтры неканвенцыянальнай медыцыны. Як кажа, дар аздараўлянння пераняў ад дзеда, які быў знахарам і сілу, як і ён, браў з Неба. Там ёсць энергія, якая можа аздаравіць мозг, а праз яго і ўсё цела чалавека.

Ужо некалькі месяцаў ездзіць Альгіс, і яму, як і Кашпіроўскаму, людзі пішуць лісты з падзякамі за вылячэнне. Ёсць такія, хто быў на яго сеансах 30 разоў, а ёсць і іншыя, якія ўжо пасля першага не вяртаюцца.

У Ольштыне на яго сеансе было ў зале больш за 40 асоб, няпоўныя два рады. На сцэне гаршкі з вадою, слоікі, бутлі. Пытанні, як заўсёды перад сеансам: хто чым хварэе, каму палягчэла, каму стала горш пасля папярэдняй сустрэчы...

— А са мной нічога не дзеецца, — кажа жанчына ў першым радзе з крыўдай. — Ні Кашпіроўскі, ні хто іншы мяне не разварушыць.

Гаворка ціхне, калі на сцэну ўваходзіць Альгіс Егерскас — біяэнергатэрапеўт...

Адна жанчына ў акулярах ужо тут чацвёрты раз. Кажа, што сеансы добра ўплываюць на яе сэрца і настрой. Толькі з пазваночнікам кепска. Затое добра спіцца і галава не баліць. Іншыя гавораць, што адчувалі падчас сеансаў, ці хвароба адходзіць, ці не. Альгіс пявучым голасам тлумачыць: „Пасля трэцяга сеанса можа выйсці з вас наймацнейшая хвароба. Калі адчуеце сябе дрэнна — не бойцеся. Толькі пасля трэцяга сеанса пачынаецца асноўнае лячэнне. Тры першыя — перабудова вашага арганізма".

Хворыя кладуць далоні на калені, расслабляюцца. Альгіс гаворыць крыху па-літоўску, па-руску, трапляюцца беларускія і польскія словы. Рукамі выконвае жэсты, быццам нешта прыцягаў да сябе і адпіхаў. Перада мною ёрзае хлопчык, пазяхае, іншыя спяць, седзячы выпраставаныя. Станаўлюся сонным, шчыміць левая рука; можа, гэта толькі стомленасць?.. Пасля 30 хвілін — глыбокі ўздых паветра, рукі ўверх, пацягваемся... Яшчэ „запраўлянні" вады, якая дзякуючы энергіі перaказанай аздаравіцелем, набірае лячэбнай моцы. Піць яе трэба перад ядой найменш месяц, прамываць ёю вочы, на хворыя месцы класці прымочкі, кампрэсы, праціраць балючыя месцы.

— Біяэнергія пераходзіць 9 бетонных мураў, пераходзіць у вас, — кажа Альгіс. — Гэта не мая сіла. Я толькі яе пераказваю... — На незаўважальны знак Альгіса гаснуць лямпачкі. — Глядзіце на мяне, кажыце, што бачыце.

— Бачу светлую постаць... Светлы слуп... як семафор... — чуюцца галасы ў цемры. — Бачу духа, як узлятае ўгару, замяняецца ў шар... ляціць проста на мяне!.. Адчуваю цяпло... а я нічога не бачу, не чую...

Я таксама не бачу.

Удзельнікі сеанса памалу разыходзяцца. Забіраюць сваю ваду і пытаюць пра наступную сустрэчу. Падзяляюцца ўражаннямі. „Усё ёсць у вашых галовах", — сказаў падчас сеансу Альгіс. Вядома, у нашых галовах ёсць рэчы, пра якія і не снілася філосафам!

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




### БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦ ІНЖ. БАРЫСЛАВА РУДКОЎСКАГА

*(пачатак у 42 н-ры)*


Ля канавы. *Ніва*, 4.04.1982 г., н-р 5, рыс.

На беразе ракі. *Ніва*, 11.04.1982 г., н-р 6, рыс.

Дзядзька Квас, я да Вас (карэспандэнта „Нівы" Міхася Красоўскага з Малынкі каля Заблудава). *Ніва*, 25.04.1982 г., н-р 8, рыс.

Ранішняя раса. *Ніва*, 2.05.1982 г., н-р 9, рыс.

Помнік савецкім воінам у Бельску-Падляшскім. *Ніва*, 9.05.1982 г., н-р 10, рыс.

Сялянская сядзіба. *Ніва*, 9.05.1982 г., н-р 10 рыс.

Камяк глебы (з Замкавай гары ў Гацьках). *Ніва*, 20.06.1982 г., н-р 16, рыс.

Геаграфічнае асяроддзе (каля Агустова). *Ніва*, 13.06.1982 г., н-р 15, рыс.

На лугу. *Ніва*, 27.06.1982 г., н-р 17, рыс.

Голас радзімы. *Ніва*, 11.07.1982 г., н-р 19, рыс.

Крапіва. *Ніва*, 18.07.1982 г., н-р 20.

Ліпа. *Ніва*, 15.08.1982 г., н-р 24, рыс.

Маліна. *Ніва*, 22.08.1982 г., н-р 25, рыс.

Рамонак. *Ніва*, 24.10.1982 г., н-р 34.

Дуб. *Ніва*, 29.08.1982 г., н-р 26, рыс.

Рабіна звычайная. *Ніва*, 26.09.1982 г., н-р 30

Геамарфалогія аховы прыроды (каля Аўгустова). *Ніва*, рыс.

Камень у краявідзе (у парку ў Бельску-Падляшскім). *Ніва*, 7.11.1982 г., н-р 36, рыс.

Топографическая документация часовни православной на улице Дубичи гор. Бельск Подляский. *Царкоўны архіў Уваскрасенскай парафіі*, машынапіс, рыс.

Геамарфалогія аховы зубра. *Ніва*, 24.07.1983 г., н-р 30, рыс.

Горкі аховы прыроды (у Гацьках). *Ніва*, 28.08.1983 г. н-р 35.

Ахова вадаёмаў (р. Лясная). *Ніва*, 18.09.1983 г., н-р 38, рыс.

Воскресеньска церква в Більску Підляському. *Наше слово*, 15.01.1984 г., н-р 2, рыс.

Геоморфологія охороны водоймищ. *Наше слово*, 28.01.1984 г., н-р 4, рыс.

Каб я быў міністрам (меліярацыя ў Беларусі і на Беласточчыне). *Ніва*, 6.05.1984 г., н-р 19.

Топография урочиск прихода Щиты Денделово. *Царкоўны архіў парафіі Шчыты*, машынапіс, рыс.

Крест железный на гранитном пьедестале с 1865 года с. Гацьки. *Турыстычна-краязнаўчае бюро*, Бельск-Падляшскі, 1.08.1984 г., машынапіс, рыс.

Кама береговой ласточки в с. Гацьки. *Турыстычна-краязнаўчае бюро*, Бельск-Падляшскі, 1.08.1984 г., машынапіс, рыс.

„Замковая горка" в Гацьках-Городище. *Турыстычна-краязнаўчае бюро*, Бельск-Падляшскі, 1.08.1984 г., машынапіс, рыс.

Геаграфічнае асяроддзе. *Ніва*, 12.08.1984 г., н-р 33, рыс.

Кот — грозны шкоднік. *Ніва*, 19.08.1984 г., н-р 34, рыс.

Топография кургана в Гацьках. *Турыстычна-краязнаўчае бюро*, Бельск-Падляшскі, 6.09.1984 г., машынапіс, рыс.

Лисья горка с. Проневич. *Турыстычна-краязнаўчае бюро*, Бельск-Падляшскі, 6.09.1984 г., машынапіс, рыс.

На кургане (у лесе в. Крывая). *Ніва*, 16.09.1984 г., н-р 38, рыс.

Топография колокольни церкви Рождества Пречистой Девы Марии гор. Бельск Подляский. *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс, рыс.

Топография участка земли, ограды и церкви Иоанна Богослова в селе Августово к/Бельска Подляского. *Царкоўны архіў парафіі Аўгустова*, 1984 г., машынапіс, рыс.

Геамарфалогія аховы прыроды. *Беларускі каляндар*, 1985 г., с.199-201, рыс.


**P.C.**

# У ЛЮБЛІНЕ АБ МЕНШАСЦЯХ

Люблінскі Інстытут Цэнтральнай і Усходняй Еўропы наладзіў у днях 20-23 кастрычніка 1992 года навуковую канферэнцыю, прысвечаную становішчу нацыянальных і рэлігійных меншасцяў у посткамуністычнай Еўропе. Канферэнцыя праводзілася на пленарных пасяджэннях у трох секцыях:

- нацыянальнай палітыкі дзяржаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы,
- юрыдычнага становішча нацыянальных меншасцяў,
- статыстыкі нацыянальных і рэлігійных меншасцяў.

Выступленні ўсіх прысутнух на канферэнцыі навукоўцаў з Беларусі, Літвы, Расеі, Славакіі, Чэхіі, Венгрыі, Францыі, Украіны і Польшчы былі рознымі па сваёй форме і высновах, яднала іх аднак супольная тэма: становішча рэлігійных і нацыянальных меншасцяў у нашай частцы кантынента. Пытанне гэтае выклікае вялікую зацікаўленасць гісторыкаў, сацыёлагаў і палітыкаў - асабліва сёння, у час вайны на тэрыторыі былой Югаславіі. Людзей штораз больш хвалююць таксама нацыянальныя канфлікты ў былым Савецкім Саюзе. Усе яны ставяць сабе пытанне, ці абы канфлікты гэтыя не ахопяць усю Еўропу.

Ініцыятары люблінскай канферэнцыі паставілі сабе задачу выясніць нацыянальна-рэлігійную сітуацыю ў посткамуністычных дзяржавах Еўропы. Пытанні нацыянальных меншасцяў разглядаліся на канферэнцыі шматбакова - у мінулым і сёння. Трэба тут адзначыць, што ў апошні час быў зроблены гісторыкамі вялікі крок дзеля высвятлення гэтага пытання. На канферэнцыі навукоўцы гаварылі не толькі пра лічбы, але і пра метадалогію (спосабы вызначэння колькасці нацыянальных і рэлігійных меншасцяў). Шматлікія з іх, абапіраючыся на свае доследы, рабілі вывад, што нельга сёння ставіць знак роўнасці паміж нацыянальнасцю і веравызнаннем. Заўвага гэтая важная ў кантэксце статыстыкі. Як дасканалы прыклад можна тут прывесці сітуацыю на Беласточчыне, *дзе амаль кожны беларус гэта праваслаўны, аднак не кожны праваслаўны - беларус.* Аб падобным з'явішчы можна было пачуць у выступленнях навукоўцаў са Славакіі і Венгрыі.

Канферэнцыя ў Любліне дала таксама магчымасць прагучаць і для палітычных выступленняў, асабліва, калі тэма датычыла палякаў за ўсходняю мяжою ды сітуацыі нацыянальных меншасцяў у Польшчы. Прапанова, каб меншасці ў Польшчы і палякаў па-за межамі дзяржавы (Беларусь, Літва, Украіна) трактаваць парытэтна не мае аднак належнага асэнсавання на практыцы, з увагі на розныя палітычна-эканамічныя ўмовы ў гэтых краінах.

Адным з рэфератаў, які выклікаў доўгую дыскусію, было выступленне Марка Галушкі - прадстаўніка варшаўскага аддзела Хельсінскага камітэта правоў чалавека. Ягоная інфармацыя пра колькасць нацыянальных меншасцяў у Польшчы ды іхнюю прыналежнасць да розных канфесій выклікала вострую палеміку з боку ўкраінцаў. Прадстаўнікі Украіны і Аб'яднання ўкраінцаў у Польшчы дамагаліся ўключыць у свой этнічны арэал паўднёвую Беласточчыну і Лэмкаўшчыну. Адказваючы на гэтае дамаганне, Марэк Галушка сказаў, што ні лэмкі, ні беларусы не хочуць быць украінцамі ды ён не бачыць падстаў, каб мяняць карту нацыянальных меншасцяў у Польшчы.

Юрыдычны статус нацыянальных меншасцяў у Польшчы, прадстаўлены Агнешкай Рыбчынскай, выклікаў спрэчку на тэму патрэбнасці сеймавага закону. Удзельнікі дыскусіі прадстаўлялі розныя пункты гледжання, параўноўваючы сітуацыю ў іншых еўрапейскіх краінах. Аргумент, што нібыта канстытуцыя гарантуе роўныя правы ўсім грамадзянам польскай дзяржавы адкінуў праф. Ежы Тамашэўскі. Практыка палітычнага і грамадскага жыцця паказвае, што сеймавыя законы неабходныя, каб меншасці адчувалі сябе паўнапраўнымі грамадзянамі Польшчы.

Даўжэйшую спрэчку выклікала пытанне юрыдычнага статуса палякаў у Беларусі, Літве і Украіне ды іх колькасці. Дыскусія аднак паказала, што хаця гісторыкі, сацыёлагі і дэмографы маюць розныя ў гэтай справе погляды, то глядзяць на ўсю праблему рэальна. У выступленнях аб'ектыўнасць брала верх над эмоцыямі. Трэба толькі спадзявацца, што ўслед за навукоўцамі пойдуць і журналісты.

Варта тут прывесці яшчэ словы прэзідэнта Любліна д-ра Лешка Бобжыка, які вітаючы ўдзельнікаў канферэнцыі сказаў, што "мясцовыя ўлады ганарацца тым, што такія падзеі адбываюцца ў іхнім горадзе". Адказваючы на словы прэзідэнта, ініцыятар і галоўны арганізатар люблінскай канферэнцыі праф. Ежы Клачоўскі звярнуў увагу, што прысутнасць вялікай колькасці вучоных з розных краін толькі падкрэслівае ролю Любліна ў гісторыі не толькі польскага народа.

І сапраўды, з горадам гэтым звязаная не адна гістарычная падзея. Атмасфера старажытнага Любліна надзвычай добра ўплывала на ўдзельнікаў канферэнцыі аб нацыянальных і рэлігійных меншасцях.

**АНТОН МІРАНОВІЧ**

# НАСТАЎНІЦКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў БЕЛЬСКУ

26 кастрычніка г.г. у пачатковай школе н-р 3 у Бельску-Падляшскім прайшла метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Сустрэліся на ёй розныя ўзростам і прафесійным стажам людзі. Усе яны аднак супольна задумоўваліся, якім чынам узбагаціць урокі беларускай мовы ды як мага больш зацікавіць вучняў гэтым прадметам.

У першай частцы канферэнцыі адбылася праекцыя фільма пра катастрофу на Чарнобыльскай АЭС. Відэакопія фільма не аказалася надзвычай якаснай, а да гэтага - больш-менш палова фільма была па-расейску. Хаця відэатэхніка з'яўляецца сёння выдатным дыдактычным дапаможнікам на ўроках, то гэты фільм, сцвердзіла візітатар беларускай мовы Тамара Русачык, не падыходзіць для выкарыстання на ўроках беларускай мовы. Хіба што пасля апрацоўкі.

У другой частцы канферэнцыі ўвага адводзілася правядзенню ўрокаў беларускай мовы. Вольга Сянкевіч прадставіла шмат дэталёвых канспектаў, якімі можна ўзбагаціць праграму навучання беларускай мовы. У сувязі з увядзеннем у пачатковыя школы элементаў экалогіі канспекты гэтыя датычылі экскурсій на прыроду /ці мала ж у беларускай прозе і паэзіі цудоўных кавалкаў, прысвечаных прыродзе?/

Не абыйшлося на бельскай канферэнцыі без заўваг у адрас "Нівы", якой настаўнікі карыстаюцца ў сваёй працы. Заўвагі былі такія: "Зорка" не друкуе тэкстаў, якія пішуць дзеці, а калі ўжо друкуе дык скарачае - дзеці моцна гэты факт перажываюць, няма ў "Зорцы" ілюстрацый для размалёўвання, "Ніва" малавата цікавіцца самімі дзецьмі, не пагаворыць з імі, не надрукуе здымкаў. Настаўнікі пажадалі, каб "Зорка" падрыхтавала кароценькія сцэнкі на ёлку ці якую іншую нагоду.

У частцы прысвечанай на дыскусію візітатар беларускай мовы паведаміла аб дэкламатарскіх конкурсах - заахвоціла настаўнікаў рыхтаваць вучняў да гэтых жа конкурсаў, нягледзячы на фінасавыя цяжкасці школ. Ужо нават на той сціплы пачастунак дзецям даводзіцца шукаць спонсара, сцвердзіла Тамара Русачык. Спадарыня Русачык паведаміла яшчэ пра курс для настаўнікаў у Беларусі. На жаль, заўважыла яна, да гэтай пары запісаліся толькі дзве асобы. Пры такім удзельніцтве хутчэй за ўсё курс не адбудзецца. Пару гадамі таму людзі вокнамі і дзвярыма пхаліся на такія курсы - трэба было здарова мазгаваць, каго адкінуць. З курсу трэба скарыстаць, заахвочвала настаўнікаў спадарыня Русачык, бо асветны бюджэт ізноў будзе абрэзаны, штаты павялічаны ды, не сакрэт, многіх з вас чакаюць звальненні з работы. У школе астануцца толькі людзі з самымі высокімі кваліфікацыямі, да якіх улічваюцца і ўсякага тыпу курсы. Гэты аргумент аказаўся быць, бадай, самым пераканаўчым, бо ўдзельнікі канферэнцыі вырашылі ўсё-ткі скарыстаць з курсу ў Беларусі.

Выказваючыся пра сваю працу, настаўнікі звярталі ўвагу не на стаўленне да беларускай мовы вучняў, але кіраўнікоў школ. Там, дзе навучанню беларускай мовы адведзены асобны кабінет - там яно наогул добра ўкладваецца. Але там, дзе такога кабінета няма - беларускую мову спіхаюць у найгоршыя залы або проста трэба ісці з класам на паветра. Калі дзеці бачаць, што на ўроках беларускай мовы іх горай трактуюць, дык занадта гэтым прадметам іх не зацікавіш, сцвярджалі настаўнікі. Дырэктары найчасцей не выходзяць насустрач патрэбам беларускіх класаў. Нават у зусім дробных справах трэба рабіць такія захады, што ў выніку, гаварылі настаўнікі, найхутчэй сапсуеш сабе здароўе на дзень-два. Для патрэб сеймавай камісіі, сказала Т. Русачык, я сабрала інфармацыю пра навучанне беларускай мовы ў пасляваеннай Польшчы. У праведзеным апытанні дырэктары школ затойвалі сваю нацыянальнасць, заўважыла Т. Русачык. Сярод палякаў, сказала на заканчэнне візітатар беларускай мовы, непрыхільнікаў навучання беларускай мовы не так ужо і шмат. Практыка падказвае, што мы самі сабе бываем найгоршымі ворагамі.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# ВЕСТКІ СА ШКОЛЫ Ў КРЫЎЦЫ

Зараз у Падставовай школе ў Крыўцы (Нараўская гміна) вучыцца 62 дзяцей з Крыўца, Прыбудкаў, Падбаравіска, Крыніцы і Храбустоўкі. На ўрокі беларускай мовы ходзіць роўна трыццаць школьнікаў. Заняткі па роднай мове вядзе настаўніца Надзея Міхальчук. Вучні чытаюць „Зорку" і пішуць у рэдакцыю лісты.

У школьнай бібліятэцы ёсць даволі багата кніжак — ажно 4600, у тым ліку і на беларускай мове.

Актыўна працуе тут вучнёўская спулдзельня „Смык", якую вядуць вучаніцы Галіна Леўчук і Яанна Сельвяструк а апекуном яе з'яўляецца настаўнік Яраслаў Іванюк. У лістападзе было зарганізавана харчаванне. Спулдзельня дае даход і з зыскаў былі куплены некаторыя неабходныя для школы прылады.

У кастрычніку вучні ездзілі на экскурсію „Надбужскім шляхам." Пабывалі ў Драгічыне, Мельніку (капальня крэйды), на Святой гары Грабарцы. У мінулым навучальным годзе такіх экскурсій было тры: у Белавежу, Беласток (тэатр і Польскае радыё) і ў Цехановец (Сельскагаспадарчы музей імя Кшыштафа Клюка). Зімою зарганізуюць катанне на санках па Белавежскай пушчы (яна ў іх — як кажуць — пад бокам), а вясною — веласіпедныя рэйды. Можа яшчэ наладзяць бівак у недалёкіх Рыбаках.

У школе прыемна і ўтульна. Класныя залы памалявалі ў мінулым годзе. У апошнія дні кастрычніка вучні і настаўнікі навodзілі парадак на сваім панадворку і на спартыўнай пляцоўцы — зграбалі апаўшае лісце.

**ЯСЕНЬ**




## У СПРАВЕ НАСТАЎНІЦКАЙ КАДРЫ

У "Ніве" ад 18 кастрычніка зацікавіў мяне артыкул "Ніва вінаватая?", а ў ім выказванне візітатар Тамары Русачык на тэму асветы. Калі займае яна пасаду візітатара, дык можа шмат зрабіць. Павінна яна выказацца таксама ў справе настаўніцкай кадры. Шмат настаўнікаў беларускай мовы адышло, або незадоўга адыдзе на пенсію. Дырэктары школ аднак не прымаюць на працу маладых магістраў гэтага прадмета - беларускую мову трактуюць як другасны прадмет, бо дзеляць яго гадзіны нават на чатырох настаўнікаў, абы гадзін гэтых было болей. У такой сітуацыі ўсё тое, што прыдбалі для школы былыя настаўнікі /кніжкі, дапаможнікі, этнаграфічныя экспанаты/ застаецца без апекуна.

Якая сёння настаўніцкая кадра? Якая падрыхтоўка ў яе? Найчасцей настаўнікамі беларускай мовы з'яўляюцца людзі пасля агульнаадукацыйных ліцэяў з беларускай мовай навучання, якія закончылі школу 20-28 гадоў таму ды з мовай гэтай не мелі ўжо дачынення. А праграма ж навучання гэтага прадмета сур'ёзная. Уявіце сабе, каб настаўнік на ўроках беларускай мовы ў II-III класах гаварыў па-польску. А дзе ўзбагачэнне лексікі? Як можна зацікавіць вучняў гэткім чынам?

Ёсць школы, у якіх 3 спецыялісты, а ў іншых - зусім іх бракуе. У раёнах гэтая сітуацыя вядомая. Візітатар Тамара Русачык павінна дапамагчы маладым магістрам знайсці працу. Варшаўскі універсітэт штогод выпускае спецыялістаў гэтага прадмета.

**ЧЫТАЧ**

## KONKURS NA WSPOMNIENIA

Pracownia Badania Dziejów Kościołów i Mniejszości Narodowych Instytutu Historii Uniwersytetu Wrocławskiego organizuje konkurs na wspomnienia obywateli Rzeczypospolitej, członków mniejszości narodowościowych, przedstawiające ich losy po wybuchu II wojny światowej, a zwłaszcza po 17.IX.1939 r. aż do 1970 r. W konkursie mogą wziąć udział przedstawiciele wszystkich mniejszości narodowościowych. Prace można przekazać w języku ojczystym, polskim, niemieckim, rosyjskim lub angielskim. Mogą one mieć charakter wspomnień, dziennika itp. Prace rozpatrywane będą w czterech grupach: białoruskiej, ukraińskiej, żydowskiej i reprezentantów pozostałych narodowości. W miarę możliwości prosimy o nadsyłanie prac w 2 egz. maszynopisu, ale przyjmować będziemy także czytelne rękopisy. Rozmiarów nie ograniczamy, ale nie powinny one przekraczać objętości samodzielnej pozycji wydawniczej /200 stron maszynopisu/. Przewidujemy druk prac wyróżnionych. Jeden egzemplarz pracy przejdzie na własność pracowni i będzie wykorzystany do celów naukowych.

Najlepsze prace będą nagrodzone. Nie będziemy uwzględniać opracowań już wydanych.

**Kierownik Pracowni**
**Prof. dr. hab. Krystyn Matwijowski**

Prace konkursowe prosimy przesyłać na adres:
Uniwersytet Wrocławski
Instytut Historyczny
Pracownia Badania Dziejów Kościołów i Mniejszości Narodowych
ul. Szewska 49
50-139 Wrocław

# ПАДАРОЖЖА ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Кніжка Тэрэсы Занеўскай „Podróż daremna"* — з'ява даволі асаблівая на цяперашнім кніжным рынку ў Польшчы. Сёння вельмі цяжка сустрэць на паліцы кнігарні томік вершаў сучаснага паэта, яшчэ цяжэй — крытычную кніжку аб сучаснай паэзіі. Не такія тэксты карыстаюцца попытам. Тугавата сучаснаму аўтару, амаль безнадзейна — літаратурнаму крытыку. А тут — тэксты аб тэкстах, восем эсэ пра беларускамоўную паэзію ў Польшчы (адзін агульны пра літаб'яднанне „Белавежа", сем пра паасобных аўтараў). „Белавежа", выдавец кніжкі Т. Занеўскай, яшчэ раз пасведчыла, што стаіць навонкі так званага літаратурнага працэсу ў краіне і кіруецца сабе адно ўласцівымі арыенцірамі. Так яно было, ёсць і, мабыць, будзе. Такая сітуацыя характэрная альбо для выдаўцоў вельмі багатых, альбо для зусім бедных (выпадак „Белавежы"), дзе правілы выдавецкай палітыкі вызначае не рынак, а „ручное кіраванне". Выйсця з гэтага зачараванага кола няма, і таму „белавежцы" як у мінулым, так сягоння і заўтра прысуджаныя на супольнасць ( не ў сэнсе мастацкае праграмы, а, так бы мовіць, ідэалагічным) — трымацца разам, без увагі на асабістыя амбіцыі ці ступень „пасвячанасці ў літаратуры", пакуль яшчэ трымаецца беларускае слова і некаму хочацца яго чытаць.

Супольнага ў „белавежцаў" значна больш, чымсьці адрознага. Гэта выразна падкрэслівае кніжка спадарыні Занеўскай, хоць у ёй назіраем спробу дыферэнцыяцыі вядучых постацяў беларускай літаратуры ў Польшчы. Перш за ўсё — матыў падарожжа ў час прамінулы, у Аркадыю дзяцінства і юнацтва, адкуль вытокі беларушчыны нашых аўтараў. Безумоўна, матыў „дарэмнага падарожжа" ёсць скразным матывам ва ўсёй сусветнай літаратуры. Ды для беларусаў — ён арганічна звязаны не толькі з універсаліямі духоўнай архітэктонікі чалавека, але й з іхнім нацыянальным лёсам. Ён больш натуральны ў беларускай ненатуральнай нацыянальнай сітуацыі. Назоў кніжкі Т. Занеўскай — вельмі трапны, хоць і небяспечны: яго можна разумець і на зусім „канкрэтным узроўні" (без гэтай экзістэнцыяльнай метафарычнасці) — як дарэмнае падарожжа менавіта беларускага прыгожага пісьменства, перад якім няма будучыні.

Эсэ ў „Падарожжы" Т. Занеўскай несуразмерныя як па ступені крытычнага аналізу, так і па дыяпазоне зарэгістраваных творчых амплітудаў „белавежцаў". Але тут — справа густу. Мне асабіста найцікавей чыталася тэксты пра Алеся Барскага і Яна Чыквіна: першы з іх — з памкненнямі да крытычнага сінтэзу, другі — як аналіз аднаго з аспектаў творчага амплуа (краявід і ягоная функцыя ў Чыквінавай лірыцы). Абодва тэксты даюць вельмі добрае ўяўленне пра творчы воблік як аднаго, так і другога паэта. Іншыя — як бы крыху меней.

Скажам, польскамоўнага чытача пры чытанні кніжкі Т. Занеўскай чакае шмат новага й неспадзяванага. Бо беларуская літаратура ў Польшчы — усё яшчэ terra incognita ў шырэйшай свядомасці. У сферы фактаграфіі і інтэрпрэтацыі „Podróży daremnej" прыносіць салідны і добрасумленны матэрыял. Можна нават сказаць — асноўны.

А як выглядае справа, калі на гэта глянуць з „нашага боку", гэта значыць, з пункту гледжання чалавека, які „белавежцаў" чытае й крыху арыентуецца ў шырэйшым кантэксце беларускай літаратуры?

Пані Тэрэса піша між іншым: Starałam się uniknąć jakichkolwiek sugestii, dotychczasowych schematów, utartych kanonów, ocen i wartościowań. О. К., няма падставы, каб ёй не верыць. Але сцвярджэнне гэтае хоцькі-няхоцькі выклікае пабочную думку: а ці сапраўды запрапанаванае ёю бачанне паэзіі „белавежцаў" пазбягае „dotychczasowych schematów"? Дагэтульныя схемы, трэба меркаваць, гэта перш за ўсё тыя спробы і намогі ацэнкі творчага шляху „белавежцаў", што паяўляліся ў „Ніве" ці, аказіянальна, у нейкіх іншых беларускіх выданнях. Сілаю абставін, пісаліся яны людзьмі з таго самага белавежскага асяроддзя, якое адначасна з'яўлялася аб'ектам ацэнкі. У гэткай сітуацыі, зразумела, „крытыка" мела даволі вялікую прымесь „сяброўскай неаб'ектыўнасці". Ды ўсё-такі, нягледзячы на сваю „сярмяжнасць" ці нават „саматужнасць", закладзеныя асновы бачання ролі паасобных беларускіх аўтараў у цэлым нашым літаратурным жыцці не размінаюцца з крытыкай аб'ектыўнай, да якой можна залічыць тэксты спадарыні Тэрэсы. Гэта — як нейкае падсумаванне майго ўражання ад чытання „Podróży daremnej". Для нашага асяроддзя, як мяркую, кніжка не з'яўляецца нечым ажно так неспадзяваным і свежым, што можна яе назваць літаратурным адкрыццём. Яна істотная для нас агулам (а не толькі для тых, пра якіх у ёй пішацца), але перш за ўсё ейная істотнасць заключаецца ў надзвычай выразна і паслядоўна праведзенай спробе ўпісання беларускага літаратурнага працэсу ў шырэйшы літаратурны кантэкст. У гэтым, як думаю, „Белавежа" здабыла сабе (зусім нечакана) бескарыснага прыхільніка і прамотара.

**ЯН МАКСІМЮК**

------------

* TERESA ZANIEWSKA, Podróż daremna. Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce, Białystok 1992

# „УСПАМІНАМІ ЎШАНОЎВАЕМ ПАМЯЦЬ..."

Другога жніўня г.г. у „Ніве" быў змешчаны мой матэрыял пра таленавітага беларускага паэта, які родам з Беласточчыны, Франука Грышкевіча. Тут былі надрукаваны і ягоныя вершы. А трыццатага жніўня ў газеце з'явіўся цікавы водгук на маю публікацыю Юры Трачука „Франук Грышкевіч незабыты".

Дзякуй спадару Ю. Трачуку за гэта, а таксама за яго прапанову наконт вялікага інтэрв'ю пра пісьменніка з Віктарам Казлоўскім, які зараз жыве на Гродзеншчыне, а ў свой час добра ведаў Ф. Грышкевіча. Просьба яго будзе выканана, таму інтэрв'ю з цягам часу, калі „Ніва" дасць дазвол, будзе надрукавана на яе старонках.

Пошукі звестак пра таленавітага беластоцкага паэта працягваюцца. Добра было б, каб супольна мы з Юры Трачуком сабралі спадчыну Франука Грышкевіча пад адну вокладку і выдалі. Хацелася б, каб нас падтрымала і Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", якім кіруе Ян Чыквін.

Жывуць яшчэ, дзякуй Богу, і ў Польшчы беларусы, якія добра ведалі Ф. Грышкевіча. З Сопата, напрыклад, адгукнуўся Мацей Канапацкі. Вось што ён адказаў на маю просьбу:

„... Вы цікавіцеся маім настаўнікам, дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні Францішкам Грышкевічам? Гэтае зацікаўленне мае творчы аспект, і таму вялікае Вам дзякуй ад колішняга вучня гэтага цудоўнага чалавека, якога давялося, перш за ўсё пашчаслівілася, мне пазнаць. Кожны раз, калі сустракаюся са сваім сябрам, таксама слухачом на Вострабрамскай вуліцы (здаецца так яна называлася) Антосем Алькснінам, мы ўспамінамі ўшаноўваем памяць, самую светлую памяць пра Ф. Грышкевіча. Праўда, гады два ці тры мы знаходзіліся ў Беларускай гімназіі з Антосем, але наш дарагі настаўнік пакінуў прыкметны след, застаўся ў памяці назаўсёды.

Мы слухалі лекцыі пра беларускую літаратуру і стылістыку. Кожная лекцыя Франука Грышкевіча была незвычайнай, сумленна прачытана. Наш дарагі выкладчык быў проста закаханы ў гэтыя прадметы. Яшчэ сёння ў памяці гучаць словы Цёткі голасам Грышкевіча:

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасць на ніўкі вёскі.
Зазалаціцца без мятліцы,
Даць хлеб смачнейшы трошкі...

Наш настаўнік быў сярэдняга ўзросту. Яго галава была крыху пахілена ў правы бок. Калі нам чытаў лекцыю, меў звычай час ад часу трымаць пальцы правай рукі каля вуснаў (вось быццам зараз яго бачу...).

Аднойчы пазнаёміў ён нас з уласнай біяграфіяй. Адно толькі я запомніў: Франук Грышкевіч гаварыў, што ў польскай турме білі яго ланцугамі. Праз пэўны час ён быў прымушаны пакінуць Польшчу, каб пераехаць у Прагу. Там ён працягваў вучыцца. Больш падрабязнасцей не памятаю. Вось Антось быў нават знаёмы з удавою нашага незабыўнага прафесара. Яна працавала ў газетным кіёску. Расказвала Антосю, што муж выскачыў праз акно кватэры, дзе яны жылі ў Вільні, калі даведаўся, што па лесвіцы ідуць да іх энкавэдысты яго арыштоўваць...

Неяк я чуў па „Свабодзе" радыёперадачу пра Франука Грышкевіча. Яна была прысвечана яго заўчаснай трагічнай смерці. Пазней нешта занатаваў, аднак зараз адшукаць у сваім хатнім архіве ніяк не магу... Ад шчырага сэрца жадаю Вам поспехаў у вывучэнні біяграфіі і творчага шляху прафесара Ф. Грышкевіча. Ён заслугоўвае вечнай памяці ў гісторыі..."

Вось такія ўспаміны даслаў мне Мацей Канапацкі. Але пошукі працягваюцца. Буду шчыра ўдзячны, калі і чытачы „Нівы" мне дапамогуць. Адрас мой знаходзіцца ў рэдакцыі.

**СЯРГЕЙ ЧЫГРЫН,**
**г. Слонім**

# ЗОРКІ СЯРОД ЗОРАК
## "Уліс" у Сопаце

XXIX Міжнародны фестываль музыкі "Sopot-92" арганізаваўся вельмі цяжка, пакуль усіх спраў, звязаных з яго падрыхтоўкай не ўзяў у свае рукі Войцех Кажанеўскі. Хацеў ён зрабіць нешта новае, арыгінальнае, каб фестываль стаў сапраўдным святам песні. Таму адразу згадзіўся ён з нашай прапановай, каб запрасіць кагосьці з Беларусі. Ведалі мы папулярнасць "Уліса" з канцэртаў на "Басовішчы", і калектыў гэты здаўся нам найбольш адпаведным, каб выступіць у Сопаце. Хлопцаў з "Уліса" намаўляць не было трэба. Аставалася толькі адна справа - знайсці спонсара, які сфінансуе



*Выступае „Уліс"*

пабыўку рок-гурту з Беларусі ў Сопаце. Былі спадзяванні на Валіка Сельвесюка, але яны развеяліся пасля "Басовішча". Аставалася або адмовіцца ад ўдзелу "Уліса" ў Сопаце, або далей шукаць /працу/ грошай.

Ужо без ніякай надзеі падыйшла я да Аліка Максімюка і без непатрэбных слоў сказала: "Ад БАСу залежыць, ці "Уліс" выступіць у Сопаце". Алік доўга не думаў - паабяцаў дапамагчы і слова стрымаў. Адкуль ён з Басяй Кучынскай узялі 2 мільёны злотых, не ведаю, але хапіла гэтага, каб групе з шасці чалавек пражыць у Сопаце чатыры дні.

"Уліс" выступіў 28 жніўня - на другі дзень фестывалю, у праграме "Рок-ноч". У гэтым начным канцэрце зайгралі такія рок-групы, як "Universal" /Нямеччына/, "Graffiti" /Вялікабрытанія/, "Bear Head", "Opozycja", "IRA 44", "Rezerwat", "Human", "Red Hot Blues", "Air Force One" /Польшча/.

Фаны беларускага рока прыехалі з Варшавы, Беластока і Гданьска, а бел-чырвона-белы сцяг відаць было як трэба. Перад канцэртам як маглі падтрымоўвалі на духу хлопцаў з "Уліса" Эля, Юстына і Адась.

Прагучалі старыя і новыя песні. Сябры "Фан-клуба Уліса" маглі быць задаволены. Аднак сам Сяржук Краўчанка памяркоўна ацаніў канцэрт. Сказаў: "Было нармальна. Сярод публікі быў наш фан-клуб, і значыць, што камусьці наш канцэрт быў патрэбны".

Фэлікс Аксёнцаў, які з боку аглядаў выступленне "Уліса", крытычна ацаніў сопацкую публіку: "Мякка-



*Сябры фан-клуба*

свежа-мароженая. Была таксама нашая, беларуская. Ігралі мы для іх і ўдзячныя ім, што прыехалі".

Як аказалася, было ў Сопаце і беларускае тэлебачанне, але тэхнічна не найлепей падрыхтаванае. Быў і Андрэй Хлястоў з Менска. У конкурсе "Grand Prix" атрымаў узнагароду і вельмі падабаўся публіцы. Добра было б, каб утрымаўся гэты фестываль, а беларуская песня увайшла ў яго пастаянную праграму. Пабачым праз год, як гэта атрымаецца.

**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ,**
Гданьск




## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

**ЧАСТКА XVIII**

Дзяржаўная самастойнасць Беларусі, як я ўжо сказаў, не выклікае ніякага энтузіязму з боку беларусаў з усходняй Беласточчыны. У іх выказваннях на гэту тэму болей праяўляецца трывога з прычыны распаду СССР, чым радасць з рацыі ўзнікнення незалежнай Рэспублікі Беларусь. Ізразумела, што такая трактоўка гэтага важнага пытання не можа не выклікаць сумных рэмінісцэнцый. У паставе нашых землякоў выступае дзіўны прагматызм, які выяўляецца між іншым у такіх пытаннях як: „А ці людзям будзе лепш жыць у гэтай незалежнай Беларусі, чым жылося ў Савецкім Саюзе?" і выказваннях: „Тае цэлае незалежнасці есці не будзеш, калі пасварацца з Расеяй, то яна так прыцісне, што беларусы паздыхают", „Беларусь вечно была з Расеяю, то і цяпер Расеі павінна трымацца". Такога тыпу выказванні ложацца на маё сэрца цяжкім і балючым пластом. Справа ў тым, што беларусы пакуль што не ўсведамляюць сабе той праўды, якую палякі дасканала ўсведамілі ўжо ў XIX стагоддзі. Праўда гэта зводзіцца да таго, што незалежны нацыянальна-дзяржаўны побыт з'яўляецца найбольшай каштоўнасцю даступнай народам. І нескарыстанне нават у спрыяльных гістарычных умовах з гэтай каштоўнасці з'яўляецца свайго роду злачынствам або прынамсі нацыянальным інфантылізмам беларусаў. Калі я стараўся тлумачыць размоўцам, што палякі за сваю дзяржаўную незалежнасць пралівалі кроў у шматлікіх паўстаннях, дык пяцідзесяцігадовы селянін адказаў: „Палякі гэто другое дзело. Нас ні параўнаеш з палякамі. Яны ад вякоў былі ворагамі рускіх, а для нас рускіе то тое самэ, што браты. У нас тая сама рэлігія. Я там ні процію тае, як вы кажэце, нізалежнасці. Гэто што тут парадзіш, калі самы беларусы аб ёй нічого не знают. От сюды, у нашу вёску, пачці што кажды дзень прыязджают з Беларусі людзі на гандэль. То каждаго з іх я пытаю: „Ну што там у вас чуці?" То чы вы знаеце, што ўсе гаворат аб тым, што Гарбачоў знішчыў ім спакойнэ жыцє і што ўвёў высокі цэны, але ні адзін ніколі ні сказаў, ні пахваліўся гэтаю нізалежнасцю. Ну то калі яны самы тамака ні пераймаюцца гэтаю цэлаю нізалежнасцю, то чаго нам тут з яе цешыцца? Я там проціў яе нічого ні маю, як нізалежнасць, то нізалежнасць. Толькі які з яе можэ быці толк? То ж тые армяне чы азербэйджане, чы грузіны, чы малдаўцы, то яны таксамо досталі нізалежнасць, і што з таго вышло? Жылі дагэтуль без нізалежнасці і без бедаў, без крыві, без разні, а сегодне, то пагляньце, што робіцца. Б'юцца, рэжуцца, забіваюць калег, выганяюць з хатаў, у каторых жылі тысячы лет. А сколь вядомо, што штось такое ні будзе ў Беларусі. То ж ведомо, што ў Беларусі таксамо жывут ні толькі беларусы, але і палякі, і рускі, і ўкраінцы, і татары, і негры. І чорт яго ведае, чы хтось там ні ўзбурыцца і чы ні пойдзе адзін на другого з нажом і аўтаматом. Яно ведомо, што нізалежнасць гэто свабода. А калі свабода, то павінно быці для чалавека добрэ. Бяда ўся ў тым, што свабода гэто добра штука для разумнаго, а для дурака свабода — гэто бяда для другіх. Дай дураку поўну свабоду, то ён табе такого наробіт, што после ад гора ні пазбіраешся. Я там ні знаю, як яно е напраўду, але мне здаецца, што гэты ўсходні народы то яшчэ ні дараслі да поўнае свабоды. Вы гляньце, што ў Польшчы сегодне робіцца, мафії, афэра за афэраю, спекуляцыя, разбой, а вінаватых німа. От табе і свабода! А там на ўсходзі, у Беларусі, Украіне і Расеі то можэ быці намнога горш. Ого, як рускі чалавек разыдзецца, то ўжэ разыдзецца! Яго ні ўтамуеш. На нашых людзей трэбо палкі, а ні свабоды. Як жэ гэто можэ так быці, як у нас, што бандзіт мае лепшы правы, чым паліцыянт? Калі паліцыянт даст па галаве бандзітаві, то яго пакарают, а калі бандзіт даст па галаве паліцыянтаві, то яму нічого.

Адно дзело свабода для шведа чы англічаніна, а другое дзело свабода для нашаго чалавека. Тые то свабоду выкарыстают да ўчцівае працы, а наш чалавек да дракі. Дай Бог, каб тая нізалежнасць ні вышла беларусам бокам. Але калі яна ўжэ е, то ніхай будзе. От што я скажу".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**



## МУОЙ РУОДНЫ КРАЙ

Там, дэ ліпы пахнут мэдом -
Сэла пахнут хліэбом
І сады цьвытут вэсною
Як нігдэ пуд нэбом.
Там зэмэлька моя руодна,
Там я народывся,
Там хлібнув я туолько гора,
Што й шчэ нэ забувся.
Нэ було обутку, хліэба,
А і людэ мэнэ былі
Вовсі нэ на шутку.
Мусыт кепсько я служыв їм,
Хоч, як муог старався,
Працював як вуол робочы -
Подякі сподывався.
А тэпэр, колі стары
Вжэ ныхочу я нычого.
Оно шкода, ой як шкода
Віэку молодого.
Помню: солов'е спывалі,
Чыркала - було - сорока,
А я коны пас по ночах
Нэ змружывшы ока.
Ох, як ждав зыходу соньця
- Тяжко дісь сказаты,
Бо пэклі од шаду ногі;
А дэ ж їх сховаты?
Завшэ булі ногі в ранах,
Шыя й плечы в скулах,
Сліпота курача в очах,
А за працю - дуля.
Всёрумно мэнэ там тягнэ,
Нэ дае спокою,
Штось так руоднэ
І так бліське
Тягнэ за собою:
То поля, шовковы лонкі,
Цэрковка вэсёла,
Дэ народ наш православны
Жывэ наоколо.
То дорогі-стэжкі,
Змочаны сьлёзою,
То могылы коло цэрквы
Над Орлянкою-рыкою.
Шчэ жыву здалюок од Дубыч,
Але як сконаю
- Поховайтэ мэнэ в зэмлю
В моюом руоднум Краю.

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**
30 верасня 1992



### ФАСОЛЯ З ГРЫБАМІ

**Прадукты:** 40 дэкаў дробнай белай фасолі, 50 дэкаў пячурыц, 15 дэкаў цыбулі, 5 дэкаў алею, паўшклянкі смятаны, 2 зубкі часнаку, соль, перац, 2 крутыя яйкі, 5 лыжак пасечанай зялёнай пятрушкі ці кропу.

Фасолю перабраць, памыць і намачыць у астуджанай кіпячонай вадзе. Пакінуць нанач. Зварыць фасолю ў той жа вадзе, у якой яна мачылася. Пасаліць, калі фасоля будзе амаль гатовая. Пячурыцы ачысціць, памыць, дробна нашаткаваць. Цыбулю дробна пасячы і крыху падсмажыць на алеі, дадаць пячурыцы, пасаліць, спырснуць вадой і стушыць пад пакрыўкай, а пасля перамяшаць са смятанай.

Зваранную фасолю адцадзіць, перамяшаць з дробна пасечаным часнаком, пасыпаць перцам і пераламяшць у салатніцу. Паліць яе соусам з пячурыц, пасыпаць дробна пасечанымі крутымі яйкамі і зялёнай пятрушкай ці кропам. Можна гэту страву падаць з салатай.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

Калі на шклянках з'яўляюцца жоўтыя плямы ад чаю — пратрыце іх пітнай содай, і шклянкі заблішчаць, як новыя.

*

Ніколі не мыйце фаянсавы посуд вельмі гарачай вадою — яна псуе глазуру, выклікае трэшчыны, змяняе колер фаянсу (ён жаўцее). Мыйце яго цёплай вадой з мылам або парашком, а пасля палашчыце ў халоднай вадзе.

**А. ПРАЛЕСКА**

Якія мы людзі

## АНКЕТА

Здарылася гэта 14 гадоў таму назад. Быў год 1978, і я збіралася ехаць у Францыю. У Варшаве, у французскім консульстве я мела атрымаць візу на ўезд у іх краіну.

Заняўшы сабе месца ў велізарнай чарзе, я прысела ў холе на крэсле, побач з элегантнай жанчынай гадоў шасцідзесяці. Мы разгаварыліся. Жанчына са знаўствам і з захапленнем расказвала мне, што неабходна пабачыць у Францыі, і вочы яе гарэлі. Вядома! Я ехала туды першы раз, а яна ўжо ведала гэту краіну, як свае пяць пальцаў.

Тым часам раздалі анкеты.

У маладосці чалавек шмат цягаўся па свеце, абіваючы перад гэтым парогі розных консульстваў. Часта здаралася так, што трэба было дапамагчы недабачачым ці недавучаным старэчам запоўніць анкеты. Я ахвотна дапамагала ім, калі можна было пісаць па-польску, па-руску ці па-нямецку. У консульстве Французскай рэспублікі здарылася непрадбачанае. Анкету можна было запаўняць толькі на французскай або англійскай мовах, з якімі знаёма я была толькі павярхоўна.

Я здранцвела. Мая суседка затое адважна ўзяла сваю анкету і, разлажыўшыся на стале, пачала хутка запаўняць яе па-французску. Запоўніла і я першыя рубрыкі (імя, прозвішча, дата і месца нараджэння), а пасля нясмела, не гледзячы ў вочы гэтай жанчыне, запытала, ці не дапамагла б яна і мне справіцца з гэтай анкетай.

Жанчына спачатку быццам бы нават і не пачула. Пасля акінула мяне такім позіркам, ад якога я гатова была праваліцца скрозь зямлю, і моўчкі падсунула маю анкету да сябе. Запоўніла адну рубрыку і адапхнула анкету назад.

Я ізноў узяла яе, круцячы ў руках як нейкі бескарысны прадмет. Ізноў запытала суседку, бо не зразумела наступнага пытання.

— Ах, гэта сённяшняя моладзь! — зганьбавала яна мяне, уздыхнуўшы астэнтацыйна. — Не хочацца ім мовы вывучаць... — Можа змылілі іх мае джынсы, а можа наогул негатыўныя адносіны да „сёння".

Сказаўшы гэта, яна запоўніла мне яшчэ адну рубрыку. Відаць было, што ў гэтым моманце тая пані ўнушыла сабе абсалютную перавагу нада мною, бо я хоць і была сёння „моладдзю", але затое дурнейшая.

Я прыніжана маўчала, цалкам залежная ад яе, марачы ў стварыўшайся сітуацыі толькі пра адно: каб яна скончыла запаўняць гэту няшчасную анкету. Але пані была не з падатных. Яна яе брала і штомінуту адкладала, а анкета была як на злосць даўжэзная і падрабязная, і я зноў прасіла і прасіла.

Я не магла зразумець, што дзеецца. Якая ж тут работа?! Калі мне даводзілася дапамагчы камусьці, дык я старалася зрабіць гэта дыскрэтна і хутка, каб чалавек, які звярнуўся да мяне з просьбай (часта тлумачачыся, што не ўзяў з сабой акуляраў), не адчуваў сябе горшым, не мусіў паніжацца. І... заўсёды ўдавала, што я паверыла ў тыя акуляры. Проста было сорамна, што чалавек той саромеўся.

А гэтая ж пажылая дама была маім пагромцам, сведкам маёй ганьбы, ёй дастаўляла радасць тое, што я не пішу па-французску; бо яна — пісала. А я, наіўная, разлічвала на людскую прыхільнасць, думала, што пані будзе амаль шчаслівая,калі зможа дапамагчы мне наведаць яе любімую краіну, і нават у галаву мне не прыйшло, што яна будзе так здзеквацца нада мною, прымушаючы глядзець ёй амаль благальным, сабачым позіркам у вочы, стыдацца і перапрашаць. На маім фоне яна адчувала сябе лепшай, больш культурнай, і яе вочы момантамі пачыналі гарэць, але ўжо халодным бляскам.

Нарэшце мы дайшлі да месца, дзе трэба было выказацца наконт нацыянальнай прыналежнасці. Мая пані, не пытаючыся мяне, напісала: польская. „Nie jestem Polką, proszę pani!" — паправіла я.

Жанчына схамянулася, падняла галаву. У яе халодных па-ранейшаму вачах бліснула здзіўленне. Як жа гэта? Мы ж увесь час гаварылі між сабою як полька з полькай...

Больш ніякіх увагі з яе боку не было. Яна неяк скулілася, ямчэй узяла ў рукі пяро, і мы хуценька дакончылі гэтае без патрэбы доўгае пісанне.

Каб я была тады ведала, што можа здарыцца такое, узяла б з сабой дачку — тадышнюю моладзь... У свае дваццаць гадоў яна ўжо добра валодала англійскай мовай і някепска арыентавалася ў французскай і італьянскай. Не гаворачы, вядома, пра тры натуральныя: беларускую, польскую і рускую.

* * *

Не ведаем часта, каму даем уладу ў рукі...

**АДА ЧАЧУГА**

Карысна для здароўя

## КАСЦЯНЫЯ АСКОЛКІ

Нельга сячы мяса тапаром, бо косці распадаюцца на вельмі малыя вострыя асколкі. „Лес сякуць — трэскі ляцяць," гаворыць народная прымаўка. А вось такія трэскі з касцей — асколкі, трапляюць разам з мясам у страўнік. Асколкі ў выніку перыстальтыкі пападаюць у сляпую кішку і раняць слізістую абалонку. Вынік: запаленне сляпой кішкі і цяжкая хвароба — апендыцыт. Тады толькі скальпель хірурга можа выратаваць жыццё.

Мяса трэба рэзаць пілкай, нават той да метала.

**ІНЖ. Б.Ф. РУДКОЎСКІ**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


**Дарагая "Зорка"!**

Пішуць табе вучні VI "ц" класа Пачатковай школы ў Бельску-Падляшскім. У пятым класе на ўроках беларускай мовы мы часта чыталі цябе, "Зорка". Найбольш падабаліся нам "Прыгоды мышкі Пік-Пік" і "Вясёлы куточак".

Будзем пісаць табе лісты!

Да пабачэння, дарагая "Зорка"! Жадаем табе ўсяго найлепшага!

**Вучні VI "ц" класа.**

**СЯРГЕЙ ПАПАР**

## ПРЫБАБУНЬКІ

- Ты ўсё ведаеш, бабулька:
Што такое прыбабунька?

- Нас па кнігах не вучылі:
Мы свіней, гусей лічылі.
"Гусі, гусі
У бабусі..."
Я іх даглядала ў скрусе.
Падрасла.
А нас вучылі,
Каб снапы мы валачылі...

Песня, казка не ўмірала:
Іх - ад мамы - я ўбірала;
Брала мудрасць ад бабулькі:
Прымаўкі і прыбабунькі,
І выслоўі, і пацешкі
Лезлі ў кош, як сыраежкі.
Для чаго?
Каб забаўляцца,
Каб лягчэй
Была нам праца;

Каб і вы, мае унукі,
Зведалі -
І без прынукі -
Мудрасць продкаў,
Дар дзядоў
І маіх сівых гадоў:

"Хто бацькоў не слухае -
Той у пальцы дзьмухае",
"Працу, родненькі, палюбіш -
Добрым чалавекам будзеш...",
"Еш, пакуль рот свеж!",
"А пераначуеш -
Тады болей пачуеш!",
"Жыць - не мяшок шыць!"



*У Чыжах пасля фэстыну.* **Фота М. Ваўранюка**

## ЗАГАДКІ

Білі мяне, білі,
білі, калацілі,
па полі цягалі,
клоччамі рвалі, на ключ запіралі
і на стол саджалі.

xxx

Сядзіць панна
ў чырвоным кафтане.
Як узялі разбіраць
- сталі плакаць, наракаць.

xxx

У цёмнай цямнушачцы
сядзяць чарнушачкі
і вяжуць вязаначкі
- ні вузла, ні пяцелькі.

xxx

Сам я тонак, як паясок,
у мяне востранькі насок.
Як пайду на поле ваяваці
проціў высокенькіх панічоў у злаце,
яны мяне паясаюць,
а мае востранькія зубкі
іх усіх перакусаюць.

xxx

Б'юць мяне палкамі,
пнуць мяне камнямі,
рэжуць мяне нажамі.
За тое мяне глумяць,
за што мяне любяць.

Адказы: пчолы, хлеб, цыбуля, лён, серп.

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК-ПІК

### НЯЧЫСЦІК, ЯКІ БІЎ АРЭХІ

Неяк сярод ночы вылезла мышка Пік-Пік з норкі і пабегла на кухню шукаць ласункаў. У прыгожай, плеценай з лазы вазачцы ляжалі арэхі - буйныя, відаць - салодкія. Узрадавалася Пік-Пік і давай іх разгрызаць. Але ці то зубкі былі ў мышкі слабыя, ці то арэхі былі занадта цвёрдыя, нічога ў Пік-Пік не атрымалася. Засумавала ласуха. Прыдзецца разбіваць арэхі малатком, як гэта робіць Тата!

Прыцягнула мышка з калідору малаток, расклала па падлозе арэхі, і -бух! - кінула малаток на арэх. Пасля яшчэ, і яшчэ... Усе ў хаце папрачыналіся. Тата пакрочыў на кухню і так шумнуў на мышку, што тая схавалася пад халадзільнік. Там бы ўсё і скончылася, але ў ніжняй кватэры жылі Суседзі. Іх звалі Пракурор і Пракурорша. Яны былі вельмі строгія і любілі парадак. Калі сярод ночы іх разбудзіў страшэнны грукат у верхняй кватэры, Пракурор і Пракурорша апранулі халаты і пайшлі наводзіць парадак.

Тата, Мама, Веранічка і Пепіта толькі паспелі задрамаць, як пачуўся званок у дзверы. Тата на дыбачках пайшоў у калідор і паглядзеў у дзвярное вочка. Убачыўшы Суседзяў, здзівіўся, але адчыніў.

- Што ў вас тут робіцца? - строга запытаўся Пракурор. - Што за грукат на вашай кухні?!

Тата разгубіўся, пачаў прасіць прабачэння, а Суседзі пайшлі на кухню разбірацца. А там на падлозе ляжаў няпрыбраны малаток і пабітыя арэхі.

- Вось яно што! - абурыліся Суседзі. - Вы сярод ночы арэхі білі?! Ды яшчэ проста на падлозе! Вы - хуліганы! Вас трэба высяляць адсюль!

- Ды гэта не мы... - загаварыў Тата і змоўк, бо не будзеш жа даказваць, што біла арэхі малатком звычайная мышка - хто ў гэта паверыць?!

Суседзі пайшлі спаць, і Тата, уздыхнуўшы, лёг у ложак, а мышка, якая ўсё сядзела пад халадзільнікам, засмуцілася. Няўжо іх выселяць будуць з-за пары арэхаў?!

Трэба выпраўляць становішча. І мышка залезла ў вентыляцыйную адтуліну і па вузкай трубе спусцілася ў кватэру Суседзяў. Апынуўшыся ў іхняй кухні, Пік-Пік зрабіла "інспекцыю" і знайшла арэшкі, праўда, не такія буйныя, як дома. Малаток Суседзі трымалі таксама ў калідоры. І хутка Пракурора і Пракурошу пабудзіў страшэнны грукат.

- Зноў наверсе хуліганяць! - абурыўся Пракурор.

- Ды не, - спалохалася Пракурорша. - Нібыта ў нашай кухні стукаюць...

Пайшлі Суседзі на кухню. Як толькі запалілі там святло, грукат спыніўся. На падлозе ляжаў малаток і пабітыя арэхі, а больш у кухні не было нікога. Пракурор і Пракурорша абшукалі ўсё памяшканне, памацалі, ці добра зачыненыя фортка і акно, і не знайшлі нічога падазронага.

- Заўтра разбяруся! - сказаў Пракурор, схаваў малаток і выключыў святло.

Калі Суседзі пайшлі спаць, мышка Пік-Пік вылезла з-пад халадзільніка і пачала біць арэхі. Суседзі прыляцелі на кухню, спадзеючыся спаймаць бандыта, і зноў - нікога, а на падлозе - малаток і пабітыя арэхі!

Так адбылося яшчэ два разы. Нарэшце Пракурорша рашуча сказала:

- Усё, з мяне хопіць! Я ўжо ўпэўнілася, што арэхі б'е нячысцік. Ён быў у суседзяў, а калі мы на іх насварыліся, перабраўся да нас. Пайшлі да суседзяў, папросім, каб забралі свайго нячысціка назад. Яны ўжо да яго прывыклі, ведаюць, як з ім абыходзіцца, а я спаць хачу.

Пракурор з Пракуроршай пайшлі наверх, а мышка Пік-Пік, вельмі задаволеная, перабралася ў сваю кватэру. А там Суседзі прасілі прабачэння ў разгубленага Таты.

Больш мышка Пік-Пік арэхаў па начах не біла, тым болей, што Тата схаваў малаток так добра, што сам забыўся, дзе!

**ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ**



*Малюнак Марка Сакоўскага, школа ў Орлі.*

## Вершы Віктара Шведа

### У ТАТЫ СУМЫ БАГАТЫ

- Чаму ж у тваёй задачы, Ваня,
Двойчы лік узрос у дадаванні?
- Сума атрымалася багатай,
Бо памог мне ў тым мілы тата.
- А скажы, кім тата твой працуе,
Што так дасканала ён рахуе?
- Кельнерам ён, - пахваліўся Ваня,
-У мясцовым нашым рэстаране!

### ПРЫНЁС БУСЕЛ КРЫК МАМУСІ

- Цяжкі цяпер у хаце лёс,
Адкуль жа гэта немаўлятка?
- Бусел яго, сынок, прынёс, -
Адказвае на гэта матка.
- А не магла ты даць адбой
І немаўляці адрачыся?
Маюць буслы святы спакой,
Калі ўжо крыку пазбыліся!

### НАВОШТА ДЗЕДКУ НОС?

Дзедка з унукам сена вёз,
Унук задаў пытанне:
- Навошта, дзедка, табе нос?
Дзед адказаў: - Да чхання.
- Па-мойму да глядзення ён, -
Аспрэчвае Макарык,-
Трымае ён, як парасон,
Дзядулі акуляры!

### КАЛІСЬ БЫЛО ТУТ МОРА

Да школьнікаў экскурсавод
Цікава так гаворыць:
- Раней на многа тысяч год
Было тут толькі мора...
- Дык можна гэтае пазнаць, -
Азваўся малы Янка. -
Яшчэ ад рыбаў тут ляжаць
Кансервныя бляшанкі!

## ДЗЕ МЫ ЖЫВЁМ

Мы жывём на дне вялікага паветрана-вадзянога калодзежа. Праўда, вады ў ім не бачна - яна растворана ў паветры, як цукар у шклянцы гарбаты. Толькі ў час дажджу, калі вільгаць выпадае з "паветранага раствору", мы ўвачавідкі пераконваемся, што яе ў "калодзежы" даволі шмат. Вучоныя падлічылі, што адзін кубічны метр паветра каля самай зямлі ўтрымлівае 0,01 літра вады, а ў атмасферным слупе з асновай усяго толькі ў адзін квадратны метр яе больш як 60 літраў!

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Маленькі Віця не хоча спаць. Бацька садзіцца на яго ложак і пачынае расказваць яму казкі. Расказвае гадзіну, другую. Нарэшце ў пакоі стала ціха. Маці асцярожна адчыняе дзверы і пытаецца:

- Ён заснуў?
- Так, мама, заснуў... - шэптам адказвае сынок.

ххх

- Мама, нашага татку здымаць будуць, а чаму ён такі невясёлы? Памятаеш, як нас з табою здымалі, дык мы ўвесь час смяяліся!

ххх

- Мама, давай выкінем тэлефон, а то ён цалюткі дзень з татам сварыцца! - кажа ўсхваляваная Элачка.

Сабрала **АСЯ ПРАЛЕСКА**



## УЛАДЗІМІР СІЎЧЫКАЎ
## ЛЁС І УДАЧА

**АСОБЫ:**

У д а ч а - дзяўчына ў багатай вопратцы.
Л ё с - юнак, апрануты будзённа.
М у ж ы к.
Г а н д л я р.

У правым баку сцэны стаіць крама, з левага боку на задніку намалявана дуброва.

**ПРАЯВА 1-я**

З правага боку на сцэну выходзіць У д а ч а, а з левага, адначасова з ёю, - Л ё с.

Л ё с. Сястра Удача, маё шанаванне! *(Падкрэслена ветліва кланяецца.)*

У д а ч а *(стрымана).* Маё таксама, брат Лёс.

Падыходзяць бліжэй адно да аднаго.

Л ё с. Нешта даўно не сустракаў цябе ў маім краі. Тутэйшыя людзі і забыліся ўжо, як вымаўляецца тваё імя - Удача.

У д а ч а. Памыляешся, брат Лёс. І край гэты не твой, а мой. Проста мы з табою ходзім рознымі шляхамі. Ты заходзіш у хаты, а мяне вабяць замкі, палацы, бляск каштоўных камянёў, багатыя крамы і маршы пераможных парадаў. Мне радуюцца, кажуць, што я прыношу шчасце.

Л ё с. Тваё шчасце прывіднае і хуткаплыннае: бліснула і няма яго. Табе не паспець паўсюль. Там, дзе ты спынешся, багацце і радасць, а сышла, адвярнулася - зноў чалавек у галечы. Сапраўднае, трывалае шчасце даю людзям я.

У д а ч а. Каб не быў ты маім братам, я вітацца з табою не стала б. Пагляздзі на сябе... Якое шчасце ты можаш даць?!

Л ё с. Сказаць, сястра, можна што заўгодна. А вось зрабіць цяжэй. Давай не будзем спрачацца, а наладзім выпрабаванне. Зрабі шчаслівым першага, хто тут пройдзе.

У д а ч а. А калі ён і так шчаслівы?..

Л ё с. Цішэй, нехта ідзе. Давай перакінемся ў дрэвы, пагляздзім, што за чалавек.

Лёс і Удача заміраюць, удаючы паставамі дрэвы.

**ПРАЯВА 2-я**

Тыя ж самыя. З правага боку ўваходзіць М у ж ы к.

М у ж ы к *(пазіраючы на Удачу з Лёсам).* Ай, холадна! Была б сякера, дык ссёк бы якое дрэва, расклаў бы вогнішча, пагрэўся б. А за што ты купіш тую сякеру, апошні рубель у Гандляра пакінуў! Бывае ж людзям удача: Гандляр вось скарб у лесе знайшоў, краму прыдбаў. *(Выходзіць да рампы, углядаецца ў залу.)* Вось каб і мне скарб адшукаць!

Л ё с *(напрыканцы маналогаківае Удачы).* Падыдзе?

У д а ч а. Але.

Лёс з Удачаю рухомеюць, падыходзяць да Мужыка.

Л ё с *(ляпае Мужыка рукою па плячы).* Здароў, Мужык!

М у ж ы к *(ад нечаканасці садзіцца на зямлю).* Хто, што?! *(Азіраецца, заўважае Удачу. Лёс тым часам заходзіць яму за спіну.)* Ну і паненка!

У д а ч а. Скарбаў шукаеш, аб вялікіх грошах марыш, хочаш быць шчаслівым?

М у ж ы к *(ківае).* Так.

У д а ч а. Ну дык бывай шчаслівы! *(Кідае яму кашалёк з грашыма і сыходзіць.)*

М у ж ы к. Гэй! Сышла, знікла... *(Трасе кашалёк каля вуха.)* І праўда, грошы! Ну, усё! Працаваць кіну. Адзежу багатую набуду, ежы ды пітва панакупляю, баляваць пачну. *(Устае і сыходзіць за кулісы.)*

Л ё с *(сам сабе).* Як жа, чакай, разжывешся з дурных грошай! Як прыйшлі, так і сыдуць! Перакінуся ў груганa, палячу ўслед, а там пагляздзім! *(Прымае паставу гругана.)* Кра-кра! *(Ляціць-падбягае да крамы, садзіцца за рогам.)*

**ПРАЯВА 3-я**

Мужык, Г а н д л я р і Лёс.

М у ж ы к *(з'яўляецца з-за кулісы, падыходзіць да крамы).* Стаў я пры грашах, і ўвесь свет змяніўся: сонца ярчэйшым зрабілася, вада макрэйшаю *(здзіўлена глядзіць на гругана)*, груганы буйнейшыя! Раней, здаецца, вось такія (паказвае рукамі) былі. Ды што там груганы, скора і мяне ніхто не пазнае... Гэй, Гандляр, выходзь!

Г а н д л я р *(выходзіць з крамы).* Чаго раскрычаўся, чаго вэрхал падняў?! Без цябе гармідару хапае... Напавер больш нічога не дам!

М у ж ы к *(з бразгатам стаўляе кашалёк на прылавак).* А гэта бачыў?! Усю тваю краму куплю!

Г а н д л я р *(недаверліва).* І дзе ж ты, такі дурны, грошы ўзяў? Ці не абрабаваў каго?

М у ж ы к. Дзе ўзяў, дзе ўзяў... *(Перадражнівае.)* Цябе не тычыцца! Давай мне лепш самае дарагое - вунь тое, гэнае і гэтае! *(Паказвае пальцам.)*

Л ё с *(у паставе гругана вылятае з-за рога).* Кра-кра! *(Хапае грошы і знікае за кулісамі.)*

Г а н д л я р *(спакойна).* Глядзі, глядзі...

М у ж ы к *(спахапіўшыся, кідаецца следам за груганом).* Аддай, аддай! Падлы табе мала, смецця рознага?! Грошы папёр! Даганю, капцы! І ў дуброве не схаваешся!

Г а н д л я р *(заходзіць у краму).* Дурны мужык, як варона - грошы з рук выпусціў!

**ПРАЯВА 4-я**

Л ё с залятае на сцэну.

Л ё с. Кра-кра! *(Прымае чалавечую паставу.)* А грошы да часу прыхаваю. *(Хавае грошы.)*

**ПРАЯВА 5-я**

Лёс. Уваходзіць У д а ч а.

У д а ч а. Нешта ты задыхаўся, знямогся, брат Лёс?

Л ё с. Я ж не езджу ў карэтах, як ты, сястра Удача. Дарэчы, як маецца той ашчаслівлены Мужык? Нешта яго нідзе не відаць?

У д а ч а. Дык яго, мусіць, і пазнаць будзе цяжка цяпер. *З-за сцэны чуецца голас Мужыка: "Стой! Куды паляцеў?!"*

Удача запытальна глядзіць.

Л ё с. Чуеш, ушчэнт здурнеў ад шчасця. *(Прымае паставу дрэва.)*

У д а ч а *(здзіўлена).* І чаго па дуброве лётае? *(Таксама прымае паставу дрэва.)*

**ПРАЯВА 6-я**

Тыя ж самыя. На сцэну забягае М у ж ы к.

М у ж ы к. Ну ўсё, уцёк, гад! Нідзе няма. *(Азіраецца.)* Адны дрэвы наўкол. *(Садзіцца спінаю да Лёсу і Удачы.)* Адзін раз у жыцці пашчасціла, грошай прываліла, дык і тыя груган знёс! Як жыць, што рабіць?!

Лёс з Удачаю прымаюць чалавечыя паставы.

Л ё с *(ціха).* Ну што, ашчаслівіла?

У д а ч а. Не мой гэта чалавек. Такому недарэку, як ён, ніхто не дапаможа. Дарма стараемся, пайшлі адсюль.

Л ё с. Пачакай! Ты прайграла, але і я покуль што не выйграў.

У д а ч а. І не шкада табе грошы пераводзіць на такога?!

Л ё с. А я адною манетаю абыдуся. *(Падыходзіць да Мужыка.)* Гэй, Мужык, мо патрэбу ў чым маеш?

М у ж ы к *(глядзіць недаверліва).* Багатая паненка азалаціла была дый тое... *(Махае рукою.)* А што ты можаш?

Л ё с. Азалаціць не азалачу, але трымай манету.

М у ж ы к *(расчараванa).* Адну? Залатая хоць?

Л ё с. Срэбная, але як паслухаеш мяне, дык і золата займееш. Купі сабе сякеру і вяроўку, сячы ў лесе дровы ды прадавай. Толькі памятай: мусіш выдаткоўваць на рубель меней, чым зарабіў.

Мужык разглядае манету. Лёс з Удачаю сыходзяць тым часам за кулісы.

М у ж ы к *(азіраецца).* Зноў нікога няма... Ну, што ж, і на гэтым дзякуй.

**ПРАЯВА 7-я**

Гандляр

Г а н д л я р *(выходзіць з крамы).* Ой, сцюдзёна, ой, зімна! Халадэча! І гандаль зусім не ідзе... Нешта і Мужык болей не паказваецца, як вяроўку з сякерай купіў. Мо задавіўся ў лесе? А сякеру тады нашто купляў?

**ПРАЯВА 8-я**

Гандляр. З-за куліс выходзіць М у ж ы к з дровамі.

Г а н д л я р *(здзіўлена).* Глянь ты, жывы! Гэй, Мужык, дай дроў! Змёрз я дарэшты.

М у ж ы к. Што дай, купляць трэба! У доўг не дам. Змёрз, кажаш? Працаваць трэба. Я вось сякерай намахаўся - мне і цёпла.

Мужык і Гандляр заходзяць за краму. Неўзабаве з-за яе выходзіць Гандляр.

Г а н д л я р. Ай-ай-ай! Апошнія грошы Мужык забраў! Адвярнулася ад мяне ўдача. Калі і далей так будзе, па свеце пайсці давядзецца. Мусіць, трэба кідаць гэтую краму ды ісці шукаць цяплейшага месца. *(Заходзіць у краму.)*

**ПРАЯВА 9-я**

М у ж ы к і Г а н д л я р

М у ж ы к *(выходзіць з-за куліс).* Нарэшце па-людску жыць стаў.

З крамы выходзіць Гандляр з хатулём, хоча незаўважна прайсці паўз Мужыка.

М у ж ы к *(заўважае Гандляра).* Далёка сабраўся?

Г а н д л я р. І не кажы, назаўсёды. Сыходжу адсюль. Няма тут мне шчасця.

М у ж ы к. А з крамаю што будзе?

Г а н д л я р. З сабою ж не возьмеш, хай стаіць. Мо ты купіш?

М у ж ы к. Навошта мне крама?

Г а н д л я р. Хату з яе зробіш, жыць будзеш. Ну як, надумаў?

М у ж ы к. А што, давай! *(Дае Гандляру кашалёк з грашыма, папярэдне выцягнуўшы з яго рубель.)* Вось толькі рубель сабе пакіну.

**ПРАЯВА 10-я**

Тыя ж самыя. Уваходзяць Л ё с з У д а ч а ю, не заўважныя для Мужыка з Гандляром.

Л ё с. Ну што, пераканалася? Трывалае шчасце людзям даю толькі я!

У д а ч а. Дарма толькі грошы Мужыку давала - груган знёс.

Л ё с. Трымай свой кашалёк. *(Падае Удачы кашалёк.)* Як бачыш, яны не прыдаліся.

М у ж ы к. Бывай, Гандляр! Зычу табе шчасця на новым месцы!

Г а н д л я р. Бывай, Мужык! Зычыць шчасця не буду, бо ты і так маеш.

Ідуць у розныя бакі сцэны.

Л ё с. Бывай шчаслівая, сястра Удача!

У д а ч а. Да сустрэчы, брат Лёс!

Лёс сыходзіць следам за Мужыком, Удача - следам за Гандляром.

Заслона




**ДОБРЫ ДЗЕНЬ, РЭДАКЦЫЯ „НІВА"**

Пішa Вам кіраўнік фальклорнай групы „Крынічанька" Вячаслаў Шпакоўскі з невялікага беларускага горада Барань Віцебскай вобласці, які знаходзіцца непадалёку ад горада Орша. У гэтым годзе мне пашанцавала наведаць Вашу цудоўную краіну з фальклорнай групай „Світанак", у якой я таксама прымаю ўдзел. Мы былі ў горадзе Бельск-Падляшскі з дабрачыннымі канцэртамі. Нашы песні і танцы вельмі спадабаліся і былі зразумелы гледачам.

Мы жадаем пазнаёміцца з вашымі артыстамі-аматарамі, завязаць сяброўскія сувязі, пазнаёміцца з вашым мастацтвам. У нашым калектыве ўдзельнічаюць людзі розных узростаў — ад 20 да 50 гадоў, розных прафесій. Калектыў існуе ўжо тры гады. Мы збіраемся пасля працы, спяваем беларускія песні, выступаем з дабрачыннымі канцэртамі ў розных гарадах і вёсках нашай краіны.

Я жадаю з гэтым калектывам наведаць Вашу краіну, пазнаёміць з беларускімі песнямі, абрадамі. Мы маглі б даць дабрачынныя канцэрты.

Калі ў Вас ёсць магчымасць, прышліце, калі ласка, адрас якой-небудзь аматарскай фальклорнай групы, або дайце наш адрас каму-небудзь.

Усяго найлепшага.

Вельмі чакаем адказу.

**ВЯЧАСЛАЎ ШПАКОЎСКІ**

**Ад рэдакцыі:** Зацікаўленых супрацоўніцтвам з калектывам „Крынічанька" просім пісаць на адрас:

211011 Беларусь
Віцебская вобласць
г. Барань
вул. Сарокіна 4—11
Шпакоўскі Вячаслаў

**Мікалай Сазонавіч з Навін-Вялікіх (Гажоўскае ваяводства) піша нам:** „Сардэчна дзякую за раней дасланыя нумары „Нівы", якіх не паставіла мне пошта. На жаль, „Рух" з Дэмбна-Любускага далей дрэнна выпаўняе свае абавязкі. Не памагаюць тэлефонныя размовы загадчыцы пошты ў Навінах-Вялікіх. „Рух" усю віну ўскладае на рэдакцыю і паясняе, што вы ім газету проста не дасылаеце. Зноў я не атрымаў 29, 30, 31, 32, 33, 34 і 37 нумароў. З новага года падпішуся на тыднёвік у рэдакцыі. А цяпер, калі існуе такая магчымасць, сардэчна прашу даслаць мне бракуючыя нумары „Нівы".

Ад рэдакцыі: „Ніву" мы ўжо вам паслалі. Пасняем, што мы пастаўляем у беластоцкае аддзяленне „Рух" такую колькасць „Нівы", якую яны ў нас заказваюць. Відаць ваш экземпляр „Нівы" прападае дзесьці па дарозе з Беластока ў Дэмбна, але гэта ўжо віна самога „Руху". Калі хочаце рэгулярна атрымоўваць наш тыднёвік, падпішыцеся ў рэдакцыі. Дзякуем за прывітанні і пажаданні. Вам таксама зычым усяго найлепшага і настойлівасці ў захаванні роднага.

* * *

**Барбару Гуру з Любліна** зацікавіла магчымасць атрымаць касеты з урокамі беларускай мовы, якія прапануе Беластоцкае радыё. За дэталёвай інфармацыяй звярнуліся мы да загадчыка Рэдакцыі беларускіх перадач **Уладзіслава Праховіча.** Паінфармаваў ён, што каб атрымаць урокі, трэба даслаць дзве касеты на адрас: Polskie Radio, Białystok, ul. Świerkowa 1, Lekcje języka białoruskiego, і падаць свой зваротны адрас. На Беластоцкім радыё лекцыі перапішуць бясплатна.

* * *

**Васіль Тапор з Тафілаўцаў.** Цешымся, што Вы хочаце дапамагчы нашым чытачкам з Кракава. Мы паведамілі іх пра вашую ініцыятыву і ад іх чакайце пісьма.

## ДУМКІ ДЗЕДА АНТОНА

Многа я на сваім вяку бачыў і многае перажыў. Не дарма кажуць: жыццё пражыць — не поле прайсці. Але таго, што цяпер на свеце вычвараецца, ніхто з маіх аднагодкаў прадбачыць не мог.

Гэтым летам да Кірылы, майго аднагодка і сябра, прыехаў яго зяць, але з другой ужо жонкай. Прыехалі яны, як цяпер прынята, з горада на вёску, за свежым паветрам, мясам і гароднінай.

Кірылава дачка даўно ўжо ў вёску не прыязджае. Яна цяпер каталічкай стала, палячкай па нацыянальнасці лічыцца, магістрам яе называюць, ну і чорт ведае кім яшчэ.

А гэты хлопец, ранейшы зяць, прывязаўся да сваіх цесцяў больш, чымсьці да першай жонкі, і час ад часу наведвае старых, памагае ім, падарункі прывозіць. Яны з ім таксама зжыліся як з уласным сынам. І цешацца, і частуюць, а і торбачку розным вясковым дабром напоўняць.

Яго другая жонка таксама для Кірылы і Настулі як родная — памые, папрыбірае, а і наварыць памястоваму!

Вельмі мілыя гэты людзі, хаця адно і другое — палякі. Ён з Варшавы родам, а яна з Мінска-Мазавецкага. Гавараць па-беларуску самі не навучыліся, але старых просяць, каб не саромеліся і гаварылі да іх па-вясковаму.

Ёсць у іх двое дзетак: пяцігадовая дзяўчынка і хлопчык, якому два гады. Дзеці бегаюць, шчабечуць, прыемна на малютак паглядзець. Дзядулямі і бабулямі ўсіх нас на вёсцы называюць. Так ужо ёсць, што адны старыя ў нашай Бярозаўцы асталіся. Калі нават у каго ёсць дзеці, то прыедуць яны толькі на Вялікдзень і Раждзаство, і больш у вёску носа не паказваюць. А тая Кірылава прыёмная сямейка некалькі разоў у год прыязджае. А летам то нават месяц сядзяць. І хаця яна настаўніца, а ён інжынер, ніякай работы не баяцца.

Не толькі з гэтага зяця Кірылу і Настулі, але і суседзям пацеха. У мінулым годзе Тадзік мне дроў нарубаў, а Альжбета памагла мне іх пакласці. У Ганулі, якая ўжо дзесяць гадоў удавою жыве, плот зрабіў і ў дзвярах замок памяняў. Не гавару, што яны зранку да вечара работу шукаюць, але на ўсё ў іх часу хапае: і з дзецьмі ў лес пайсці, і на рэчку паехаць, і казак нашых вясковых паслухаць. Адна толькі ў таго Тадзіка загана: не п'е ён гарэлкі. Гаворыць, што сваё ён ужо даўно выпіў. Не разумею, якая гэта хвароба, што малады чалавек чаркі гарэлкі ў кампаніі не можа выпіць. Памятаю, калі быў ён яшчэ жанаты з Надзяй, Кірылавай дачкой, то аднойчы так напіўся, што аж на лавачцы пад хатаю заснуў. У нас такое часта бывала. Мне самому такія выпадкі таксама няраз здараліся. Мае жонкі-пакойніцы наракалі на маю схільнасць да гарэлкі. Але, вядома, калі баба не скрыпіць, то хіба яна не баба?

**ДЗЕД АНТОН**




Астроне, мне прысніўся такі сон. Быццам бы я паехала некуды за граніцу. Здаецца, ці не ў Лондан. Выйшла з самалёта, спатыкнулася і павалілася. Разбіла сабе калені. Баюся, што мо нешта сабе зламала.

Узялі мяне ў бальніцу. Пачалі мяне даследаваць. Высветлілася, што ніякага пераломy ў мяне няма, але ўсё роўна трэба лячыцца. За ўсё трэба заплаціць, за праведзеныя аналізы — таксама. Божа мой! А чым жа ж я заплачу?! Гэта ж тут каштуе велізарныя грошы. А я ж перад ад'ездам нават думала, каб застрахавацца на выпадак хваробы за граніцай, бо цяпер увялі такую страхоўку, але зусім пра гэта забылася. Што ж цяпер рабіць?!

Раптам паяўляецца знаёмая лекарка з Беластока, сваячка маёй супрацоўніцы. Яна мяне нічым не можа пацешыць: „Ну так, — кажа, — давядзецца вам плаціць, ды немалую сумку!" Яна ў гэтым шпіталі быццам працуе, дык жа, пэўна, усё добра ведае. Але я ўсё ж не магу паверыць, што лячэнне каштуе аж так многа, і прашу, каб яна падвезла мяне на калясцы да стэнда, дзе пададзены кошт розных аналізаў, лячэння, аперацый. Глядзім на цэны, і ў маё сэрца ўлівaецца радасць: усё не так дарага каштуе, здаецца, што мне хопіць грошай...

**АСЯ**

Ася! Сон твой крыху з рэальнага жыцця. Думаеш усё пра грошы, пра аплаты, вось і сніцца гэта па начах. А тут яшчэ з медыцынай нагул невядома, што будзе.

Інтэрпрэтуючы твой сон паводле таго, што б ён мог прадказваць табе, варта заўважыць, што ты была за граніцай, а гэта абазначае перамену на лепшае. Праўда, будуць там нейкія ўскладненні (маю на думцы тое, што ты павалілася і мусіла лячыцца), але ўсё павінна быць добра: ты апынулася ў шпіталі, ды і цэны за лячэнне аказаліся не надта высокія.

**АСТРОН**




## КАСЯК НА "Б"

**Управа:** 1/ хутка перабірае нагамі, 2/ горад у Беларусі, 3/ мае многа грошай, 4/ старадаўні вандроўны народны тэатр, 5/ сабака з вялікай тупой мордай, 6/ "Дыпламаваны баран".

**Улева:** 7/ мае мала грошай, 8/ дом або гумно, 9/ можа заглушыць аркестр, але яго не заступіць, 10/ найхутчэй гэта Ты, 11/ вялікая дарога, шлях, 12/ клёпкі, сціснутыя абручамі.

**ЯДАНЬ**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на разетку з 39 н-ра. **Управа:** цаліна, чумакі, цясляр, чардаш, чорцік, цыганы, царква, чацвер. **Улева:** цаціва, чыліец, цэмент, частка, чарвяк, цурбан, цягнік, чарэнь.







"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

### ВЯТРЫ "БЕЛАВЕЖСКІЯ"

Сядзіць Сакрат на "Загонах",
"Дзённікі" гартае.
Многапуддзе дум ягоных
Бронзаю картавіць.

### СІТУАЦЫЯ

Агонь і вадат -
Наша радасць і бяда.

СІДАР МАКАЦЁР

### Вышэй усялякіх даведнікаў

Зайшлі ў кнігарню двое. Ён і яна. Відаць, што не ў гуморы. Спяшаюцца, усё разглядаюць, перабіраюць, лістаюць кніжкі, чагосьці шукаюць.

- Купіце энцыклапедычны даведнік, - раіць прадавец. - Дапоўненае выданне. Паглядзіце, як прыгожа выдадзены.

- А што ў ім такое? - пытае ён.

- Тут ёсць усё, што неабходна і карысна ведаць адукаванаму чалавеку.

- Дзякую. Мая жонка ведае нават тое, чаго і не трэба ведаць.

Іван Грамовіч

### ПА ПРОСЬБЕ ПРАЦОЎНЫХ

У апартаментах
Сядзеў ён шыкоўных,
Засвоіўшы слоўцы
"Па просьбе працоўных".

Пяць год прасядзеў
Старшынёй сельсавета,
"Па просьбе працоўных" -
Дабавім пры гэтым.

"Па просьбе працоўных"
Пяць год прадрамаў,
"Па просьбе працоўных"
Ён дровы ламаў.

"Па просьбе працоўных"
Закрылася крама,
"Па просьбе грамадства"
Харчэўня - таксама.

"Па просьбе" застаўся
Медпункт без рамонту,
Распушчаны марна
На вецер культфонды.

"Пра просьбе працоўных"
"Згарэў" старшыня,
Па іхняй жа просьбе -
Хай згіне хлусня!

Рыгор Яўсееў




*Малюнак Войцеха Залэнскага*

## МЫ ПАЧУЛІ

Радасная чутка страпянула нашай рэдакцыяй: неўзабаве будзем зноў карыстацца камп'ютэрамі, якія ад красавіка г.г. бяздзейнічаюць у ГП БГКТ! Камп'ютэры будуць зноў служыць для набору „Нівы"... у Гайнаўцы. Бо ў Беластоку няма спрыяльнае атмасферы для працы.

* * *

У новых эканамічных абставінах усе шукаюць ашчаднасці. Камп'ютэрнае абсталяванне за 50 тысяч долараў аказалася для БГКТ задужа капіталаёмкім. Таму сёлетні „Беларускі каляндар" набіраецца ў друк у Менску.

* * *

Ой, яшчэ будзе цягнуцца... Ён дайшоў адно да канца 1989 года...
*(Пра „Дзённік "С. Яновіча ў „Ніве")*

* * *

Стаіць дзяўчына з СНД на базары ў Беластоку, з будзільнікамі. Падыходзіць пакупнік:
— По сколько часы?
— За один час — 100 тысяч, — адказвае яна.

* * *

Рэдакцыя польска-беларуска-праваслаўна-моўнага „Часопіса" падтрымлівае вельмі добрыя адносіны з настаяцелямі праваслаўных прыходаў на Беласточчыне, дзякуючы якім удаецца ім прадаваць шмат асобнікаў свайго выдання пры цэрквах. Але ў адным з бельскіх прыходаў ім не пашанцавала. Бацюшка адмовіўся прыняць „Часопіс" на продаж, тлумачачы ім, што газеты ўводзяць розум у дурасць...

* * *

Новы час спрычыніў, што ў моўную практыку ўваходзяць усё новыя тэрміны і азначэнні. Адзін з іх: *прыватызацыя.* У Тынявічах (Вялікіх) кажуць:
— Ідзі па цукар, якраз прыватызацыя*) з Нарвы прыехала...

*) *Прыватызацыя*: самаход „Жук", якім прыватныя прадпрымальнікі развозяць усялякія тавары хатняга ўжытку па вёсках.

* * *

Пры Брэжневе дык добра жылося — можна было паехаць і купіць сабе вужвы да хамута, сякеру, вертарку і пасту Тэймурава...
*(Ад аднаго знаёмага каня ў Бандарах)*

## ЭКАЛАГІЧНЫЯ ФРАЗЫ

* Там добра прыродзе, дзе нас няма.
* Калі браканьер знайшоў месца, дзе водзіцца шмат дзічызны, значыць, ён тут яшчэ не быў.
* З назіранняў экалога: "Чым больш трактараў, тым менш вусеняў".
* Назваўшы ваўка санітарам лесу, чалавек стварыў у лесе антысанітарныя ўмовы.
* Там дзе хаваюць галаву ў пясок, узнікаюць пустыні.
* Чырвоная кніга - гэта першае выданне, выдадзенае за кошт аўтараў.

## СМЕХАТЭРАПІЯ

### УЗРУШЭННЕ ПА-КІТАЙСКУ

Узрушаны пакінуў Кітай дацкі дыпламат Снегсен Грэбсен пасля таго, як на цырымоніі провадаў у пекінскім аэрапорце 300 кітайскіх дыпламатаў патрэслі яго за руку.

* * *

### НОВЫ САМАЛЁТ

Усяго праз паўгадзіны пасля вылету прызямліліся пасажыры новага самалёта "ЕК-35". Гэта на 2 хвіліны хутчэй, чым прызямліўся сам самалёт.

* * *

### ІНЦЫДЭНТ У СТАЛОВАЙ

Здзівіць японскага госця ўсходняй кухняй вырашыў повар сталовай н-р 00 А. А. Сямізадаў. Пасля таго, як японец з'еў люля-кебаб па-руску, ён сказаў Сямізадаву: "Басая сіпасіба!", выканаў танец жывата і зрабіў харакіры. Спачатку - сабе. А потым - повару.

* * *

### З ЖЫЦЦЯ СІДАРАВА

Сідараў пайшоў у тайгу на мядзведзя, але сустрэў мядзведзіцу. На наступны дзень мядзведзь пайшоў у сяло на Сідарава.

* * *

### У НЕТРАХ КДБ

Кампетэнтныя органы абмянялі амерыканскага шпіёна Данілава на двухпакаёвую кватэру ў раёне Белага дома.

- Чаму ўсё ж такі жыццё ўвесь час даражэе?

- Таму, што жыццё ў нас не з'яўляецца прадметам першай неабходнасці.

* * *

- Шосты год жывём пры галоснасці, а я ўсё не магу зразумець, што ж гэта такое?

- Галоснасць - гэта калі рот адкрыць ужо можна, а вось пакласці туды яшчэ няма чаго.

* * *

- Я заўзятая тэатралка. Што цікавага вы можаце паведаміць пра Малы тэатр?

- Па сутнасці справы, Малы тэатр - гэта той жа Вялікі, які толькі што вярнуўся з гастроляў па ЗША.

* * *

- Ці ёсць жыццё на Марсе?
- Таксама няма.

/„Звязда"/



*Мал. Войцеха Залэнскага*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

**Мілае Сэрцайка!** Я таксама хачу напісаць пра здраду. Ты кажаш, здрада адразу відаць. Па тым ці па сім, але яе заўважыш. А я кажу, што не заўсёды!

Быў у мяне да нядаўна хлопец, за якога я руку дала б адрэзаць. Яго метад быў такі: заўсёды рабіў мне сцэны зайздрасці. Ва ўсіх маіх калегах бачыў сваіх сапернікаў. Ну, што ж, усе кажуць, што кахання без зайздрасці няма. Дык я, дурніца, верыла, што гэта такое моцнае каханне. А высветлілася, што гэта быў толькі метад на мяне, яго хітры выкрунтас. Быў ласы на кабетак!

А было так. У наш гарадок прыехаў з Беластока мой стары знаёмы. Калісьці мы сябравалі з ім, але пасля выехаў вучыцца ў Беласток на палітэхніку і там цяпер працуе. Прыехаў, не папярэдзіўшы аб гэтым. Проста прыйшоў да мяне на працу. Хацелася пагаварыць.

Зараз жа пасля маёй працы мы пайшлі ў кавярню.

Пры ўваходзе ў кавярню я заўважыла, што за намі сочыць мой хлопец. Ішоў за намі, бадай, аж ад маёй працы. Хацеў „злавіць" мяне?.. Я ж з ім на сёння і не дамаўлялася, адкуль ён узяўся — проста не ведала. Я хацела пабыць са сваім старым сябрам і ўдала, што яго не бачу.

Мы ўвайшлі ў кавярню. Нешта заказалі, здаецца, віно, каву. Мой хлопец прайшоўся між радамі столікаў. Я адвярнула галаву. Пра што будзем гаварыць утраіх? Хлопец выйшаў з кавярні. Мой спадарожнік нічога не заўважыў — хлопцы не былі знаёмыя.

Сядзелі мы, гутарылі ды пілі віно і каву даволі доўга. Я меркавала, што мой хлопец ужо даўным-даўно пайшоў дахаты. Вельмі здзівілася, калі, выйшаўшы з кавярні, заўважыла, што ён ізноў ідзе за намі. Быццам хвост які. У пэўным момацне падышоў да нас і запытаўся, ці доўга ён будзе мяне чакаць. Я сказала, каб не чакаў, бо сябра правядзе мяне дахаты. Тады мой хлопец папрасіў мяне на бок і пачаў чытаць мне „лекцыю" на тэму маёй нявернасці. У канцы сказаў, што яму з усяго гэтага засталося толькі павесіцца, што ён і зробіць. Павярнуўся і пайшоў.

Я спачатку падумала, што ён жартуе, але, калі пазваніла яму з хаты і даведалася, што яго яшчэ няма, устрывожылася. Выйшла з дому, сказаўшы бацькам, што іду да сяброўкі, бегала па знаёмых, сябрах і сяброўках, нават стукала ў дзверы варштата, дзе ён працаваў. Нідзе майго хлопца не было.

Была ўжо ноч, калі я вырашыла пабегчы да яго бацькоў. Плачучы, сказала маці, што абяцаў павесіцца. Маці — таксама ў плач. Што рабіць? Дзе шукаць яго? Але яго ўраўнаважаны бацька загадаў мне супакоіцца і ісці дахаты. Маці, аднак, не пусціла.

Так мы прачакалі да раніцы. А раніцай мой хлопец вярнуўся як ні ў чым не бывала дахаты. Калі я спыталася, дзе ён быў, бо і нідзе яго не было і не павесіўся, дык ён адказаў мне, што цэлую ноч шукаў у лесе зручнае дрэва.

Назаўтра я даведалася ад сяброўак, у каго ён правёў гэтую ноч (і не першую, зрэшты!). А што ты на гэта, Сэрцайка?

**Анеля**

**Анелька!** Але і ты нумарок някепскі. Адкуль жа ён мог ведаць, што той другі быў толькі тваім сябрам? Ты ж баялася, каб яны не сустрэліся. Пасля такіх тваіх паводзін другі б і да абыкаго ў пасцель бухнуў.

Думаю, што на нешта трывалае тут разлічваць нельга. Не будзе хлеба з гэтай мукі.

**СЭРЦАЙКА**